● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

5 лістапада 1996 г.
аўторак, № 262 (23065)



# ЗВЯЗДА

**РАССЛЕДАВАННІ**

## ШАЛЁНЫЯ СТРАСЦІ ВАКОЛ «ШАЛЁНАГА» МЯСА

**Некалькі тыдняў таму на Баранавіцкім мясакамбінаце быў аб'яўлены каранцін: высветлілася, што на прадпрыемства паступіла ялавічына з-за мяжы. Аднекуль з'явіліся чуткі, што гэта мяса брытанскіх кароў, якія, як вядома, пакутуюць ад вірусу BSE.**

**Кропкі над «і» ў гэтым здарэнні я папрасіла расставіць кампетэнтных асоб.**

***Начальнік упраўлення экспарту-імпарту Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рыгор ЗУБКЕВІЧ:***

— Баранавіцкі мясакамбінат закупіў ялавічыну вытворчасці Германіі ў Расіі. Нічога адмоўнага аб якасці прадукту, а таксама яго заражэнні вірусам мы сказаць не можам, бо высветліць наяўнасць апошняга немагчыма ніякімі лабараторнымі даследаваннямі. Але верагоднасць таго, што мяса можа быць заражаным, існуе. Таму, каб выключыць магчымасць з'яўлення хваробы, на прадпрыемстве і быў аб'яўлены каранцін.

Наогул, Беларусь за апошнія дзесяць год не завозіла ялавічыну з-за мяжы, бо не мела і не мае ў гэтым патрэбы. Рэспубліка штогод вывозіла 100—200 тысяч тон мясапрадуктаў і 450 тысяч тон малакопрадуктаў, пераважна ў Расію. Сёння аб'ёмы вытворчасці скараціліся, але не настолькі, каб мяса айчыннай вытворчасці беларусам не хапала. Тым не менш, спажыўцу хочацца і імпартнай каўбасы. Каб увезці на тэрыторыю рэспублікі мясныя прадукты і кансервы, неабходны дазвол Галоўнага ветэрынарнага ўрача краіны. Такі дазвол не даецца на прадукцыю вытворчасці дзяржаў Еўрапейскага саюза. Тым не менш, па падробленых дакументах, пры ўмове адзінай мытнай прасторы з Расіяй, існуе верагоднасць з'яўлення няякаснай прадукцыі з іншых краін. Па выніках праверкі, якая праводзілася ў сталічных магазінах у сярэдзіне кастрычніка, былі выяўлены выпадкі падробленых сертыфікатаў якасці, а таксама наяўнасць прадуктаў, тэрмін захоўвання якіх скончыўся. Калі казаць пра ўвоз у нашу краіну свініны, то гэта ажыццяўляецца апошнія 2-3 гады ў нязначных аб'ёмах — 200—300 тон на ўсю рэспубліку. Свініну мы таксама ўжываем айчынную. Замежнае ж мяса галоўным чынам паступае з Польшчы, дзе таксама ажыццяўляецца жорсткі кантроль.

***Галоўны ветэрынарны ўрач Рэспублікі Беларусь Станіслаў ШПІЛЕЎСКІ:***

— З 1990 года ў Беларусь не паступала ні ялавічына, ні свініна, ні бараніна замежнай вытворчасці. Наяўнасць захворвання нельга ўстанавіць ніякімі даследаваннямі, а таму наша краіна ўвогуле не гандлюе мясам і кансервамі з Англіяй, Францыяй, Партугаліяй, Паўночнай Ірландыяй, Швейцарыяй і яшчэ з некалькімі краінамі, дзе былі адзінкавыя выпадкі хваробы на шаленства кароў. Такое ж патрабаванне выконваюць і іншыя краіны СНД. Тым не менш, у мінулым годзе праз Украіну ў выглядзе дабрачыннай дапамогі для Беларусі накіроўваліся 15 аўтамабіляў з розным грузам, у тым ліку і з ялавічынай. На беларускай граніцы гэтая «дапамога» была спынена і накіравана назад.

**Тое ж здарылася і з 250 тонамі нямецкай ялавічыны, што закупіў Баранавіцкі мясакамбінат. Як паведаміў галоўны інжынер прадпрыемства Уладзімір Паўлаў, па прадпісанню Галоўнага ветэрынарнага ўпраўлення рэспублікі мяса было перапрацавана ў каўбасы і каўбасныя вырабы і разам з адходамі вытворчасці накіравана на адрас фірмы ў Расіі, якая выступіла прадаўцом мяса.**

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## РАДЫЁІНЖЫНЕР ГАНДЛЯВАЎ СМЕРЦЮ

Наша газета ўжо паведамляла аб тым, што супрацоўнікам упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС Беларусі і КДБ удалося затрымаць у гасцініцы «Беларусь» гандляра, які спрабаваў збыць некалькі выбуховых прыстасаванняў. Па гэтаму факту была ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства.

Нам сталі вядомы некаторыя падрабязнасці здарэння. Як аказалася, затрыманы «засвяціўся» з радыёкіруемымі выбуховымі прыладамі, якія ў дзень аперацыі праваахоўнымі органамі былі канфіскаваны ў яго. Па прафесіі злачынца радыёінжынер і жыве ў сталіцы. Ён працаваў на адным з мінскіх прадпрыемстваў інжынерам па абслугоўванню вылічальнай тэхнікі. Наколькі падпольны бізнес інжынера быў прыбытковым і якія памеры ён набыў, павінна высветліць следства, факты якога пакуль захоўваюцца ў сакрэце.

**Ігар ГРЫШЫН.**



**Перад дарогаю.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## У ДЗЕНЬ СВАЙГО ЮБІЛЕЮ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТ БЫЎ У ЦЭНТРЫ УВАГІ ЎСЁЙ КРАІНЫ

Падзеяй сапраўды рэспубліканскага маштабу стала святкаванне 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Галоўныя ўрачыстасці з нагоды гэтага адбыліся 31 кастычніка ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета.

Віншаванні ў гэты вечар прагучалі ад рэктара Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Міхаіла Дземчука, выконваючага абавязкі прэзідэнта Акадэміі навук рэспублікі Андрэя Ганчарэнкі, мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, а таксама ад замежных гасцей, якія прыехалі з Польшчы і Францыі. Павіншавалі сваю любімую навучальную ўстанову яе студэнты і выкладчыкі і, вядома, цяперашні малады рэктар БДУ Аляксандр Казулін, які ў сваім дакладзе расказаў аб шматграннай дзейнасці універсітэта, яго мінулым і будучым.

Завяршылася ўрачыстая частка вечара ўзнагароджаннем лепшых выкладчыкаў універсітэта медалямі Францыска Скарыны. Гэта стала яшчэ адной адзнакай БДУ ў гонар яго 75-годдзя і папоўніла віншавальную «шкатулку» універсітэта. У той жа дзень выкладчыкі БДУ даведаліся аб рашэнні Кабінета Міністраў аб выдзяленні універсітэту на капітальнае будаўніцтва, капітальны рамонт і набыццё абсталявання 466 мільярдаў рублёў. Ганаровыя граматы, грашовыя прэміі і іншыя знакі ўвагі калектыў БДУ атрымаў таксама ад Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Міністэрства адукацыі і навукі, Федэрацыі прафсаюзаў беларусі, а таксама ад калег з рэспубліканскіх і замежных ВНУ.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## «МЫ ПАВІННЫ ЗРАБІЦЬ СТАЎКУ НА РАЗВІЦЦЁ НАВУКІ, АДУКАЦЫІ ЯК ГАЛОЎНАГА ЭКАНАМІЧНАГА РЭСУРСУ»

***З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 75-годдзю Беларускага дзяржаўнага універсітэта***

Стварэнне семдзесят пяць гадоў таму Беларускага дзяржаўнага універсітэта — першай нацыянальнай вышэйшай навучальнай установы стала, паводле слоў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, важнай вяхой у жыцці нашага грамадства. Ён падкрэсліў важную ролю БДУ ў гісторыі беларускага народа і дзяржавы. Перакананы, сказаў Прэзідэнт, што і новыя пакаленні беларусаў будуць гэтак жа, як і мы, беражліва захоўваць у памяці імёны тых, хто прысвяціў свой талент і энтузіязм стварэнню і развіццю універсітэта. БДУ аказаў сапраўды рэвалюцыйны ўплыў на рост духоўнага патэнцыялу краіны, станаўленне ў рэспубліцы сістэмы вышэйшай адукацыі. На базе факультэтаў універсітэта ўтварыліся педагагічны інстытут, тэхналагічны інстытут і інстытут народнай гаспадаркі, юрыдычны і хіміка-тэхналагічны інстытуты. Адзін з першынцаў БДУ — Мінскі медыцынскі інстытут, які таксама адзначае свой юбілей.

За 75 гадоў дыплом БДУ атрымалі 110 тысяч чалавек. Многія з іх былі ініцыятарамі і непасрэднымі ўдзельнікамі слаўных спраў і здзяйсненняў нашага народа і ўнеслі дастойны ўклад ва ўзбагачэнне матэрыяльнай і духоўнай скарбніцы грамадства, абарону яго заваёў.

Аляксандр Лукашэнка павіншаваў усіх уладальнікаў прэстыжнага дыплома БДУ, прафесараў і выкладчыкаў, супрацоўнікаў, студэнтаў і аспірантаў універсітэта з юбілеем і паведаміў, што група работнікаў універсітэта ўдастоена ганаровых званняў, узнагароджана медалём Францыска Скарыны і іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь. У гэтай зале, сказаў ён, сабрана сузор'е бліскучых імен — таленавітых вучоных, арганізатараў навукі, дзеячаў культуры, прадстаўнікоў шырока вядомых замежных педагагічных і навуковых калектываў. Іх удзел у нашым урачыстым пасяджэнні — яркае сведчанне павагі да шматтысячнага калектыву БДУ, яго неаспрэчных поспехаў у падрыхтоўцы спецыялістаў розных ґалін ведаў.

На думку кіраўніка дзяржавы, сёння ад калектыву Белдзяржуніверсітэта ў многім залежыць сацыяльна-эканамічнае і духоўнае развіццё грамадства, палітычная і маральна-псіхалагічная атмасфера ў краіне. Разумеючы ролю і значэнне універсітэта, сказаў ён, мы прадаставілі яму статус вядучай выщэйшай навучальнай установы ў нацыянальнай сістэме адукацыі. Гэта азначае, што дзяржава прыме комплекс мераў па развіццю БДУ. Мной падпісана распараджэнне аб сацыяльнай падтрымцы выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў. Будзе значна павялічана заработная плата выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў, умацавана матэрыяльна-тэхнічная, навукова-метадычная і інфармацыйная база універсітэта. З рэзервовага фонду Прэзідэнта выдзяляецца 20 млрд. рублёў на капітальны рамонт і завяршэнне рэканструкцыі будынка фізічнага факультэта.

Сімвалічна і тое, адзначыў далей Прэзідэнт, што сваім нараджэннем і далейшымі дасягненнямі наш юбіляр у многім абавязаны Маскоўскаму і Пецярбургскаму універсітэтам, шматгадовым творчым сувязям з гэтымі і многімі іншымі вядучымі ВНУ і навукова-даследчымі ўстановамі Расіі. Магістральным шляхам развіцця цывілізацыі з'яўляецца адкрыты і дынамічны абмен ідэямі, кантакты паміж вучонымі, выкладчыкамі, студэнтамі. Беларусь ужо з прычыны свайго геаграфічнага становішча, знаходжання ў цэнтры Еўропы, павінна актыўным чынам супрацоўнічаць з усімі краінамі. Знешняя палітыка краіны, якая базіруецца на прынцыпе шматвектарнасці, найлепшым чынам садзейнічае ўдзелу беларускай вышэйшай школы ў інтэграцыйных працэсах як на Усходзе, так і на Захадзе.

У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы перш за ўсё выдзеліў развіццё Супольніцтва Беларусі і Расіі, у рамках якога можна ў найкарацейшыя тэрміны аднавіць разарваныя навуковыя і адукацыйныя сувязі. Заслугоўвае ўсялякай падтрымкі развіццё прамых сувязей паміж Беларускім і Маскоўскім дзяржаўнымі універсітэтамі. Мы ўжо нямала зрабілі для таго, сказаў ён, каб беларускія юнакі і дзяўчаты маглі без усялякіх абмежаванняў навучацца ў лепшых расійскіх ВНУ, а расіяне — у беларускіх. Як Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва я і надалей буду дабівацца дынамічнага развіцця супрацоўніцтва нашых краін у гэтай сферы. У рамках чатырох дзяржаў — Беларусі, Расіі, Кіргізіі і Узбекістана цяпер рыхтуецца пакет дакументаў па фарміраванню адзінай адукацыйнай прасторы. Плануецца разгляд прапаноў аб увядзенні адзіных адукацыйных стандартаў.

Жыццёвая патрэбнасць, у агульнай адукацыйнай прасторы, якая наспела, паступова ўсведамляецца і іншымі краінамі СНД. Краіны Садружнасці валодаюць каласальным творчым патэнцыялам. Аб'яднаўшы намаганні, мы без дадатковых затрат набудзем новыя магчымасці для пераадолення знешніх цяжкасцей. Тут і сама вышэйшая школа, вучоныя і педагогі павінны праяўляць актыўнасць, ініцыятыву.

У рамках СНД падпісаны ўжо шэраг важных дагавораў. Сярод іх Прэзідэнт выдзеліў пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў, уніфікацыі дакументаў аб іх кваліфікацыі, аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## З 1 ЛІСТАПАДА Ў БЕЛАРУСІ ЗНІЖАНЫ ЦЭНЫ НА ЛЯКАРСТВЫ

Аб гэтым рашэнні Міністэрства аховы здароўя паведаміла 31 кастрычніка на праведзенай у Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску прэс-канферэнцыі для журналістаў міністр аховы здароўя рэспублікі Інеса Драбышэўская. Яна падкрэсліла, што гэты крок не носіць палітычнага характару, а з'яўляецца першым станоўчым вынікам рэформы аховы здароўя, што праводзіцца ў Беларусі.

Генеральны дырэктар БелРВА «Фармацыя» Анатоль Гарыеў, які прыйшоў на сустрэчу з журналістамі, удакладніў, што пры водпуску з Рэспубліканскага аптэчнага склада лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння аптовыя надбаўкі будуць зніжаны на 5 працэнтаў, а ў аптэках Мінска, якія знаходзяцца на балансе аб'яднання, зніжаюцца на 10 працэнтаў рознічныя цэны. Крыху пазней, з розніцай у некалькі месяцаў, зніжэнне цэн адбудзецца і ў дзяржаўнай аптэчнай сетцы ўсіх абласцей рэспублікі. Анатоль Гарыеў падкрэсліў, што гэты акт накіраваны як на абарону малазабяспечаных грамадзян рэспублікі, так і на скарачэнне асігнаванняў на лекавыя патрэбы з дзяржаўнага бюджэту.

Паводле слоў Інесы Драбышэўскай, рэформа ў галіне ўжо ідзе, нягледзячы на тое, што яе канчатковая канцэпцыя яшчэ шырока абмяркоўваецца грамадзянамі рэспублікі. А пераўтварэнні ў ахове здароўя былі пачаты з рэфарміравання самага «балючага» месца — забеспячэння лякарствамі. У фармацэўтычным полі з'явіліся розныя формы ўласнасці: аптэкі належаць цяпер і дзяржаве ў асобе БелРВА «Фармацыя», і самім калектывам, і камерцыйным фірмам або прыватным асобам. Менавіта такая разнастайнасць формаў уласнасці дала магчымасць за 2-3 гады насыціць лекавы рынак рэспублікі. Пры гэтым Міністэрства аховы здароўя з дапамогай СААЗ ажыццяўляла самы жорсткі кантроль за асартыментам і якасцю ўвозімых прэпаратаў. Першае зніжэнне цэн на лякарствы стала магчымым дзякуючы таму, што БелРВА «Фармацыя» наладзіла добрыя адносіны з пастаўшчыкамі гэтай прадукцыі. А сёлета перайшло на работу па таварных крэдытах, фактычна інвесціруе лякарствы ў нашу краіну і адмовілася ад дзярждатацый. Страты ад зніжэння цэн пакрыюцца за кошт аб'ёмаў прадаваемай фармацэўтычнай прадукцыі, або, на мове фінансістаў, — за кошт яе абаротаў.

Міністр мяркуе, што канкурэнты дзяржаўных аптэк у рэшце рэшт таксама вымушаны будуць пайсці на зніжэнне цэн, што ў канчатковым выніку пойдзе на карысць беларускім грамадзянам.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 450*

**Аб вызваленні Л.С.Мальцава ад пасады Міністра абароны Рэспублікі Беларусь**

Вызваліць генерал-лейтэнанта Мальцава Леаніда Сямёнавіча ад пасады міністра абароны Рэспублікі Беларусь за праступак, які дыскрэдытуе воінскае званне афіцэра (паяўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*1 лістапада 1996 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№451*

**Аб назначэнні А.П.Чумакова выконваючым абавязкі Міністра абароны Рэспублікі Беларусь**

Назначыць генерал-лейтэнанта Чумакова Аляксандра Пятровіча выконваючым абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь, усклаўшы на яго абавязкі старшыні калегіі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*1 лістапада 1996 г., г.Мінск.*

# «МЫ ПАВІННЫ ЗРАБІЦЬ СТАЎКУ НА РАЗВІЦЦЁ НАВУКІ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Нашым нацыянальным інтарэсам, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, безумоўна, адпавядае творчае асваенне і прымяненне лепшага вопыту краін далёкага замежжа. Вядома, што і на Захадзе з павагай ставяцца да беларускай вышэйшай школы, беларускай навукі. У час візіту ў Францыю мяне прыемна здзівіла інфармаванасць Жака Шырака аб патэнцыяле канкрэтных беларускіх ВНУ і зацікаўленасць французаў у развіцці беларуска-французскіх навуковых сувязей. Мы цяпер павінны больш актыўна развіваць супрацоўніцтва ў сферы навукі і адукацыі з усімі краінамі Еўропы, Захаду ў цэлым.

Затым кіраўнік дзяржавы выказаўся аб некаторых праблемах вышэйшай школы, яе ролі ў сацыяльна-эканамічным пераўтварэнні краіны.

Наша рэспубліка, сказаў ён, не мае дастатковай колькасці сыравінных рэсурсаў. Галоўнае, на што мы можам разлічваць, гэта творчы патэнцыял і кваліфікацыя нашых людзей. Менавіта таму мы павінны зрабіць стаўку на развіццё навукі і адукацыі як галоўнага эканамічнага рэсурсу.

Сярод іншых савецкіх рэспублік Беларусь заўсёды выдзялялася высокім узроўнем адукацыі і кваліфікацыі кадраў ва ўсіх сферах дзейнасці. Па шэрагу напрамкаў навукі мы займалі перадавыя пазіцыі. Спецыялісты дзесяткаў краін ганарацца адукацыяй, атрыманай у беларускіх навучальных установах. Многія нашы вучоныя і спецыялісты вядомы далёка за межамі былога Савецкага Саюза. Не страціць, а прымножыць набыты інтэлектуальны патэнцыял — наш святы абавязак перад будучымі пакаленнямі.

Вы ведаеце, адзначыў Прэзідэнт, што нядаўна Усебеларускім народным сходам адобрана Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года. Яна прадугледжвае эканамічны рост і павышэнне дабрабыту беларускіх грамадзян у першую чаргу за кошт максімальнага развіцця і выкарыстання інтэлектуальных рэсурсаў нашага народа. У ёй выдзелены спецыяльны раздзел, прысвечаны развіццю навукі, адукацыі і інавацыйнай дзейнасці. Нядаўна я падпісаў указ аб стымуляванні стварэння і развіцця ў Рэспубліцы Беларусь вытворчасцей, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях. Перакананы, пройдзе некалькі гадоў, і мы на новым узроўні адновім прэстыж нашай краіны з развітой эканомікай, заснаванай на перадавых дасягненнях навукі. Мной падпісаны шэраг указаў, накіраваных на падтрымку навукі, адукацыі і людзей, якія працуюць у гэтых сферах.

Цяпер Акадэмія навук і Міністэрства адукацыі і навукі распрацоўваюць Канцэпцыю развіцця навукі ў рэспубліцы. Галоўнае патрабаванне, пастаўленае Прэзідэнтам перад распрацоўшчыкамі, — зрабіць навуку прыярытэтнай сферай. Гэтай мэце будзе служыць і ўказ аб далейшай дзяржаўнай падтрымцы навукі, які ў бліжэйшы час будзе падпісаны.

Забеспячэнне якаснага ўзроўню, паводле слоў Прэзідэнта, становіцца сёння адной з галоўных задач вышэйшай адукацыі. Гэта тлумачыцца тым, што задавальненне патрэбнасцей грамадства і ажыццяўленне тых надзей, якія яно ўскладае на вышэйшую адукацыю, у канчатковым выніку залежаць ад кваліфікацыі прафесарска-выкладчыцкага саставу, якаснага ўзроўню праграм і ведаў студэнтаў, інфраструктуры вышэйшай адукацыі і стану акадэмічнага асяроддзя.

Сёння мы назіраем, як імкліва ўзрастаюць патрабаванні да ведаў, уменняў і навыкаў спецыялістаў. Вядома, гэта патрабуе пастаянных перамен у арганізацыі і змесце вышэйшай адукацыі.

Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь распрацаваны праект новай Канцэпцыі развіцця вышэйшай адукацыі, які будзе апублікаваны ў нядаўна заснаваным часопісе «Вышэйшая школа». Па ёй выказваюцца самыя розныя думкі. Я хацеў бы заклікаць вас, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, у бліжэйшы час правесці ўсебаковае абмеркаванне і сфарміраваць такую канцэпцыю, якая, з аднаго боку, улічвала б сучасныя тэндэнцыі развіцця адукацыі, навукі, а з другога — зыходзіла б з беларускіх асаблівасцей. Перакананы, работу па павышэнню якасці адукацыі трэба пачынаць з выкладчыцкіх і навуковых кадраў, ствараючы ім умовы для актыўнага ўдзелу ў гэтым працэсе, улічваючы іх асноватворную ролю ў дзейнасці вышэйшых навучальных устаноў. Аснову кадравай палітыкі, асабліва ў пытаннях, якія датычаць набору і службовага росту, павінны складаць дакладныя прынцыпы і ясна сфармуляваныя задачы. Асаблівую ўвагу пры гэтым трэба ўдзяляць неабходнасці арганізацыі даслужбовай падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі без адрыву ад асноўнай работы выкладчыцкага саставу. Трэба стварыць больш строгія механізмы адбору і падрыхтоўкі адміністрацыйных і кіраўніцкіх кадраў у галіне вышэйшай адукацыі.

Мы за свабоду выкладання, за свабоду навукова-даследчага пошуку, за свабоду навучання, што ўмацоўваюць нашу дзяржаўнасць. Але мы за такую свабоду, якая неаддзельная ад адказнасці кожнай навучальнай установы, кожнага навукова-педагагічнага работніка за якасць падрыхтоўкі спецыялістаў.

Існуе агульная думка, што якасць ведаў студэнтаў ВНУ залежыць у асноўным ад іх здольнасцей і матывацыі пры заканчэнні сярэдняй школы. У сувязі з гэтым трэба зноў вярнуцца да пытанняў сувязей вышэйшай і сярэдняй школы, кансультавання і арыентацыі вучняў, а таксама выхавання ў студэнтаў павышанага пачуцця адказнасці перад грамадствам.

Сустракаючыся са студэнтамі-першакурснікамі ў верасні 1996 года, адзначыў кіраўнік дзяржавы, я закранаў пытанне аб выкладанні сацыяльна-гуманітарных дысцыплін. У мяне няма сумненняў, што без гуманітарызацыі працэсаў навучання і выхавання ў наш час немагчыма прафесіянальнае і асобаснае станаўленне спецыяліста. Вы памятаеце, як у пачатку 90-х гадоў пачыналася «рэфарміраванне» усталяванай сістэмы гуманітарнай падрыхтоўкі ў навучальных установах. Думаю, не памылюся і нікога не пакрыўджу, калі скажу: пачыналася бесталкова, пад магутным націскам палітычнай кан'юнктуры. У многіх ВНУ былі ліквідаваны або бяздумна аб'яднаны кафедры. Рэзка скараціўся аб'ём навучальных гадзін на вывучэнне базавых курсаў. У міністэрстве былі скасаваны вельмі патрэбныя кіраўніцкія структуры. І што ж мы атрымалі? Сумны вынік: зніжэнне ўзроўню сацыяльна-гуманітарнай падрыхтоўкі навучэнцаў і студэнтаў. Фактычна ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах навукам аб грамадстве і чалавеку адводзіцца другарадная роля. Падарваны прэстыж выкладчыка-грамадазнаўца.

Тут, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, узнікае вельмі важнае пытанне аб фундаменце, на якім павінна будавацца фарміраванне студэнтаў як паўнацэнных грамадзян. Многія дзесяцігоддзі ўся выхаваўчая работа ў ВНУ грунтавалася на марксісцка-ленінскай ідэалогіі, на маральным кодэксе будаўніка камунізму. Пачынаючы з часоў развалу Саюза, вышэйшая школа не толькі Беларусі, але і ўсіх іншых постсавецкіх рэспублік, мітусіцца, спрабуючы набыць новую апору для выхаваўчай работы. Вы ведаеце, пры ўсіх недахопах савецкага грамадства яму было ўласціва і такое, што выдзяляла яго са станоўчага боку. Людзі, выхаваныя савецкай вышэйшай школай, у велізарнай сваёй большасці захоўваюць у сабе прастату, дабрыню, таварыскасць, працавітасць, пачуццё узаемадапамогі.

Некалькі гадоў, пражытых ва ўмовах дэідэалагізацыі, паказалі, што месца камуністычных ідэй у свядомасці людзей, асабліва маладых, часта займаюць не высокія гуманістычныя каштоўнасці, а каштоўнасці «дзікага» рынку і паўкрымінальнага свету. Гэтыя ідэі нічога агульнага з дасягненнямі чалавечай культуры не маюць. У вакуум, што стварыўся, упаўзаюць самыя розныя, у тым ліку экстрэмісцкія ідэі, прапагандыстамі якіх выступаюць асобныя выкладчыкі.

Таму я лічу, адзначыў кіраўнік дзяржавы, што палітыка адыходу дзяржавы са сферы выхавання, якая праводзілася раней, была памылковай. Думаю, нам няма сэнсу прыдумляць для беларускага народа якія-небудзь новыя каштоўнасці. Яны ў яго ёсць, асвечаны часам. Гэта — хрысціянскія каштоўнасці. Яны з'яўляюцца самым вялікім культурным дасягненнем чалавечай цывілізацыі. У іх увасобіўся вопыт незлічоных пакаленняў розных грамадстваў. Кожная з хрысціянскіх запаведзяў літаральна выпакутавана людзьмі, шчодра аплачана крывёй. У гэтых прынцыпах увасобілася запаветная чалавечая мара аб працвітаючым і гуманным грамадстве. Упэўнены, мы павінны зрабіць усё для таго, каб хрысціянскія каштоўнасці, кажучы ранейшай мовай, «авалодалі» масамі», асабліва моладдзю. І тут неацэнная роля сістэмы адукацыі. Мы не заклікаем да ўвядзення ўрокаў або лекцый Закона Божага ў навучальных установах, да стварэння ў рэспубліцы інстытута дзяржаўнай рэлігіі. Але мы павінны максімальна выкарыстоўваць у выхаваўчай практыцы той велізарны гуманістычны зарад, які накоплены хрысціянствам за шматвяковую гісторыю. Тым больш, што фундаментальныя хрысціянскія ідэі не супярэчаць асноўным каштоўнасцям і іншых рэлігій.

Далей Прэзідэнт спецыяльна спыніўся на ролі Беларускага дзяржуніверсітэта ў развіцці нашай нацыянальнай навукі і культуры.

Мы з вамі, сказаў ён, перажылі крайнасці «татальнай русіфікацыі» і «татальнай беларусізацыі». Яшчэ зусім нядаўна дзяржава спрабавала дыктаваць людзям — на якой мове ім размаўляць. Але любы націск у сферы мовы нараджае процідзеянне. У мінулым годзе на рэферэндуме беларускі народ сам вырашыў гэта пытанне, і сёння ў нас ствараюцца аптымальныя ўмовы для свабоднага, натуральнага развіцця беларускай мовы і беларускай культуры.

Мы маем намер, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, і ў далейшым удзяляць значную ўвагу пошуку і развіццю таленавітай моладзі. Яна — будучыня нашай навукі. Беражлівыя адносіны да кожнага таленту, стварэнне ўмоў для яго бесперапыннага творчага росту — абавязак кожнай ВНУ, кожнага педагога. Як вы ведаеце, пачаў ужо функцыянаваць савет спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў. Вызначаны 45 стыпендыятаў фонду, заснаваны прэміі пераможцам прадметных міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд, конкурсаў і турніраў. Сярод іх 19 выпускнікоў і навучэнцаў ліцэяў пры Белдзяржуніверсітэце.

Ва ўмовах суверэннага развіцця мы павінны больш рацыянальна выкарыстоўваць увесь наяўны ў рэспубліцы інфармацыйны і матэрыяльны патэнцыял незалежна ад ведамаснай прыналежнасці. Атрыманы ў спадчыну яшчэ з савецкіх часоў разрыў паміж акадэмічнай і вузаўскай навукай згубна адбіваецца на практычных выніках навукова-тэхнічнай палітыкі дзяржавы і якасці вышэйшай адукацыі. Ён тоіць у сабе распыленне матэрыяльных рэсурсаў краіны, раз'яднанасць вучоных. Многія унікальныя акадэмічныя лабараторыі і эксперыментальныя ўстаноўкі, банкі інфармацыі недаступныя для студэнтаў, выкладчыкаў і аспірантаў ВНУ. Ураду трэба прыняць тэрміновыя меры для пераадолення такога ненармальнага становішча.

Патрабуецца, на думку Прэзідэнта, унесці карэктывы і ў арганізацыю педагагічнага працэсу прафесарска-выкладчыцкага саставу. Трэба зрабіць акцэнт на індывідуальную работу са студэнтамі, развіццё іх прафесіянальных якасцей, асобасных схільнасцей і здольнасцей. На першы план я паставіў бы ўкараненне сучасных тэхналогій навучання. Мне вядома, што пэўная работа праводзіцца навукова-педагагічнымі калектывамі, Міністэрствам адукацыі і навукі. Аднак у цэлым навукова-метадычнае забеспячэнне навучальнага працэсу сёння яшчэ не адпавядае патрабаванням часу.

Галіновыя даследчыя структуры вельмі захапляюцца тэарэтычнай праблематыкай ва ўрон прыкладным распрацоўкам. А менавіта ж у іх цяпер маюць вострую патрэбу практыкі адукацыі. Разам з тым трэба адзначыць, што ў нас ёсць і станоўчыя прыклады сістэматычнай і кваліфікаванай дапамогі работнікам адукацыі. Я маю на ўвазе серыю навукова-метадычных часопісаў «У дапамогу педагогу», якая выдаецца рэдакцыяй часопіса «Адукацыя і выхаванне».

Універсітэт, вышэйшая школа, сказаў кіраўнік дзяржавы, у цэлым існуюць не самі па сабе. На жаль, яны падвергнуты тым жа бедам, што і грамадства ў цэлым. Тут я хацеў бы прыцягнуць увагу да небяспекі карупцыі і пратэкцыянізму, якія праніклі ў сістэму вышэйшай адукацыі ў гады развалу Саюза і далейшага часу хаосу і ўсёдазволенасці. Калі вышэйшая школа не ачысціцца ад гэтай заразы, то яна не зможа выканаць сваю задачу па выхаванню грамадзяніна. У студэнцкім асяроддзі вельмі востра ўспрымаецца тое, што хтосьці даў хабар і паступіў у ВНУ, здаў экзамен, абараніў дыплом, дысертацыю. Такія факты аказваюць разбуральнае ўздзеянне на свядомасць юнакоў і дзяўчат. Калі яны бачаць, што кіраўніка факультэта, выкладчыка можна купіць, яны страчваюць веру ў людзей, справядлівасць, веру ў здольнасць дзяржавы навесці элементарны правапарадак і пакараць зло. І колькі б потым ні гаварылася правільных слоў, юныя душы ўспрымаюць гэта як крывадушнасць. Разумеючы гэта, у мінулым годзе я зрабіў рашучыя захады па навядзенню парадку з паступленнем у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Многія тады гаварылі і пісалі, што гэта — не прэзідэнцкая справа. Але я перакананы — гэта справа вышэйшай дзяржаўнай важнасці, якой мы і надалей будзем удзяляць самую пільную ўвагу. Паўнацэннага грамадзяніна можна вырасціць толькі стварыўшы ўмовы, пры якіх чалавек сваёй працай і сваім розумам (а не подкупам, не хабарам) можа паступіць у ВНУ, атрымаць дыплом, дасягнуць поспеху ў жыцці. Са школьнай і студэнцкай лаўкі павінна сфарміравацца стойкае непрыманне карупцыі. Толькі тады мы адолеем гэта зло, якое пагражае беларускаму грамадству.

Гаворачы аб выхаванні грамадзяніна, Прэзідэнт спыніўся на вельмі актуальным пытанні аб адносінах студэнцтва да цяперашняй палітычнай сітуацыі.

Ва ўсе часы і ўсюды, сказаў ён, студэнты былі і з'яўляюцца найбольш успрымальнай і лёгкай на пад'ём грамадскай сілай. Прычыны гэтага відавочныя: юнакі і дзяўчаты больш востра адчуваюць любую несправядлівасць, няпраўду і імгненна на іх рэагуюць. Але ў той жа час моладзь з-за недахопу жыццёвага вопыту лёгка паддаецца і чужому ўплыву, і падману. На жаль, многія нашы дарослыя «дзядзькі-палітыкі» імкнуцца выкарыстаць студэнцтва ў якасці ўдарнай сілы для дасягнення сваіх мэтаў. Тое, што пры гэтым будзе пакалечана жыццё маладых людзей, іх не хвалюе. Сёння я хачу заклікаць вас — прафесараў, выкладчыкаў: давайце будзем беражліва адносіцца да лёсаў юнакоў і дзяўчат, настаўнікамі якіх вы з'яўляецеся. Дапамажыце ім, якія толькі ўступаюць у жыццё, разабрацца ў тым, што адбываецца ў нашай Бацькаўшчыне і навакольным свеце. Дапамажыце студэнту разабрацца, скласці ўласнае ўяўленне, але не навязвайце яму свой пункт гледжання, якім бы правільным ён вам ні здаваўся. Я з болем і трывогай, падкрэсліў Прэзідэнт, успрымаю факты выкарыстання універсітэцкай кафедры для навязвання моладзі крайніх палітычных поглядаў, а нярэдка і для заклікаў да экстрэмісцкіх акцый. У любой цывілізаванай дзяржаве гэта недапушчальна. І ў нас педагагічныя калектывы і кіраўнікі універсітэта, іншых ВНУ рэспублікі павінны заняць тут прынцыповую пазіцыю. Дзяржава не можа і не павінна дапусціць ператварэння факультэта ці ВНУ ў вотчыну якой-небудзь палітычнай партыі, выкарыстання прафесарскай кафедры ў якасці трыбуны для заклікаў да экстрэмісцкіх акцый.

Развіццё універсітэта і вышэйшай школы ў цэлым, на думку кіраўніка дзяржавы, магчыма толькі пры захаванні міру і стабільнасці ў нашым агульным доме. Па прыклады, сказаў ён, на жаль, не трэба далёка хадзіць. Паглядзіце на былыя савецкія рэспублікі, ахопленыя міжусобіцамі, дзе дзверы ВНУ пазабіваны, а студэнты вымушаны ўзяць у рукі аўтамат. Жыццё паказала, што для адкату назад у сферы адукацыі і культуры, для «здзічэння нацыі» патрабуецца зусім няшмат часу.

Бачачы ўсё гэта, мы павінны берагчы мір і стабільнасць у нашым грамадстве. На жаль, зноў пацвярджаецца старая ісціна: «Што маем — не беражом, а як страцім - плачам». Паглядзіце, колькі было спроб толькі ў бягучым годзе справакаваць масавыя беспарадкі, у тым ліку і з запрашэннем «УНА-УНСО», спробы сутыкнуць моладзь, студэнцтва з праваахоўнымі органамі! Вы самі бачыце, як непрымірымая апазіцыя правакуе ўладу, Прэзідэнта на вымушаныя меры ў адказ, распаўсюджвае самыя дзікія чуткі аб снайперах і таму падобнае. Тым самым яны хочуць пасеяць у грамадстве пачуццё страху, няўпэўненасці,трывогі. А такое становішча — спрыяльная глеба для выбуху экстрэмізму. Тыя, хто ідзе гэтым шляхам у імя сваіх палітычных амбіцый, ставяць на карту лёс нашага народа, будучыню нашых дзяцей і ўнукаў. Калі іх планы будуць рэалізаваны і ў краіне ўсталююцца безладдзе і хаос, гэта будзе азначаць пагібель і нашай навукі, і нашай культуры. Я перакананы, не бываць гэтаму ні сёння, ні заўтра, ні паслязаўтра.

За гэтыя гады я на справе пераканаўся, адзначыў кіраўнік дзяржавы, што стабільнасць і магчымасць спакойна займацца стваральнай працай беларускі народ атрымае толькі пры ўмове дакладнага вызначэння ў Канстытуцыі права і адказнасці кожнай галіны ўлады. Прычым гэта павінен зрабіць толькі сам народ. Адзіная мэта канстытуцыйнай рэформы — зняць пагрозу вялікіх узрушэнняў і захаваць мір у нашым доме. На маючым адбыцца рэферэндуме вы будзеце рабіць выбар не паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, а паміж хаосам, безладдзем і магчымасцю жыць у міры і спакойна працаваць.

Я веру, сказаў Аляксандр Лукашэнка, у ваш розум, у мудрасць і дальнабачнасць беларускага народа і не сумняваюся ў паспяховым вырашэнні пастаўленых праблем. Устанавіўшы надзейны прававы фундамент грамадзянскага міру і стабільнасці, мы зможам спакойна займацца стваральнай працай.

Завяршаючы сваё выступленне, Прэзідэнт прывёў прарочыя словы першага рэктара БДУ, прафесара Уладзіміра Іванавіча Пічэты: «Адкрыццё БДУ — падзея велізарнай культурнай і палітычнай важнасці. Яно дае магутны штуршок для развіцця беларускай культуры, разаўе яе і пакажа ўсяму свету, чаго можа дасягнуць народ, які разбіў аковы бяспраўя і кабалы».

75 гадоў, што мінулі пасля гэтага, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, поўнасцю пацвердзілі словы буйнога вучонага, які стаяў ля калыскі першынца, а затым флагмана беларускай вышэйшай школы. На заканчэнне Прэзідэнт пажадаў удзельнікам сустрэчы добрага здароўя, асабістага шчасця, дабрабыту і творчых поспехаў у падрыхтоўцы таленавітых вучоных і спецыялістаў, выхаванні сапраўдных грамадзян нашай дзяржавы.

Ён выказаў упэўненасць, што і ў XXI стагоддзі універсітэт не страціць свае перадавыя пазіцыі і застанецца флагманам вышэйшай адукацыі Беларусі.

**БЕЛТА.**



## БЕЛАРУСЫ ПАМЯТАЮЦЬ АБ СВАІХ ПРОДКАХ І ГЕРОЯХ

Без памяці аб сваім мінулым, аб сваіх продках людзі не маюць будучыні. І гісторыя не раз гэта даказвала. Тое, што ўжо не першы год у нашай краіне 2 лістапада афіцыйна адзначаецца Дзень памяці, — добры знак здароўя нацыі. Традыцыя адзначаць Дзяды, якая захавалася з даўніх часоў, атрымала новае развіццё. У мінулую суботу сотні тысяч жыхароў Беларусі пабывалі на магілах сваіх сваякоў і блізкіх, паўсюдна прайшлі памінальныя службы ў цэрквах. У сувязі з Днём памяці па радыё прагучаў зварот да грамадзян рэспублікі кіраўніка нашай дзяржавы.

Раніцай 2 лістапада Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, генерал-лейтэнант Аляксандр Чумакоў, які выконвае абавязкі міністра абароны, і іншыя афіцыйныя асобы наведалі могілкі па Маскоўскай шашы сталіцы. Пад гукі ваеннага аркестра яны ўсклалі кветкі да магілы Пятра Міронавіча Машэрава і да брацкай магілы салдат, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—1944 гадах.

Затым Прэзідэнт і дзяржаўныя дзеячы, якія яго суправаджалі, накіраваліся на Вайсковыя могілкі — адны са старэйшых у Мінску. Тут яны таксама аддалі даніну памяці ўсім загінуўшым у баях за вызваленне нашай Радзімы і лепшым яе сынам, усклалі кветкі да помніка абаронцаў Айчыны і да помнікаў, што ўстаноўлены на магілах двух вялікіх песняроў — народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

І хоць Дзень памяці — прычына, якая не вельмі падыходзіць для абмеркавання надзённых праблем і палітычнай сітуацыі ў краіне, у час наведвання кіраўніком дзяржавы Вайсковых могілак нядоўгая гутарка Прэзідэнта з мінчанамі, якія былі ў той час паблізу, усё ж адбылася. Як заўсёды, Аляксандр Лукашэнка быў гатовы адказаць на самыя вострыя пытанні.

**Віктар КУКЛОЎ, Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**



***Не злічыць, колькі сведак пакінула нам мінулае на вуліцах гарадоў і вёсак. Кветкі каля такіх мемарыяльных знакаў — гэта кветкі нашым Дзядам, што назаўжды засталіся ў гісторыі Бацькаўшчыны. Адно з такіх памятных месцаў у Мінску — на плошчы Незалежнасці, дзе ў маі 1942 года абарвалася жыццё Героя Савецкага Саюза, рэдактара падпольнай газеты «Звязда» У. Амельянюка. На Дзяды ў халодным граніце адбіваліся агеньчыкі лампадак і пунсовыя гваздзікі, прынесеныя ўдзячнымі нашчадкамі.***

Фота Яўгена **ПЯСЕЦКАГА.**

# ТЭЛЕПОРТ — ВЯЛІКАЕ АКНО Ў СВЕТ

Яшчэ адным акном у свет назваў першую буйную беларускую наземную станцыю касмічнай сувязі Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Яе адкрыццё адбылося першага лістапада непадалёку ад Мінска — на лагойскай зямлі. Ва ўрачыстай цырымоніі ў сувязі з пускам тэлепорта разам з кіраўніком дзяржавы ўдзельнічалі непасрэдныя выканаўцы праекта — сувязісты і будаўнікі, а таксама члены ўрада, дэпутаты парламента, прадстаўнікі дыпкорпуса, госці з краін СНД. Асвяціў новабудоўлю мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

Аляксандр Лукашэнка пачаў сваё прывітанне з падзякі будаўнікам Лагойскай МПМК-198, якія ўзвялі на самым высокім тэхналагічным узроўні цэлы комплекс будынкаў тэлепорта, а таксама амерыканскай фірме «Глабалуайн», якая паставіла абсталяванне.

Прэзідэнт адзначыў, што гэта станцыя, якая з'яўляецца адной з лепшых у свеце, сімвалізуе прагрэс, звязаны з інтэграцыяй дзяржаў у сферы эканомікі, што без самай сучаснай сувязі немагчыма функцыянаванне суверэннай дзяржавы, і што менавіта сувязь дапаможа свету атрымліваць інфармацыю і аб жыцці Беларусі. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, факт адкрыцця надзейных каналаў сувязі ва ўсходнім і заходнім напрамках яшчэ раз пацвярджае мнагавектарны характар палітыкі беларускай дзяржавы. Тэлепорт мае і яшчэ адно немалаважнае значэнне: праз абмен тэле- і радыёпраграмамі (а неўзабаве на Захад і Усход будуць «ісці» з Беларусі дзве тэлевізійныя і некалькі радыёвяшчальных праграм) адбываецца культурнае і дзелавое збліжэнне народаў.

Тэлепорт дапаможа Беларусі не толькі раскрыць свой вялікі эканамічны патэнцыял, але і прыцягнуць у рэспубліку замежны бізнес — такое перакананне выказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Яловіц, які выступіў на адкрыцці станцыі.

Сімвалічны ключ ад тэлепорта Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка перадаў міністру сувязі і інфарматыкі нашай рэспублікі Уладзіміру Ганчарэнку, адзначыўшы пры гэтым яго асабісты вялікі ўклад у развіццё галіны.

На цырымоніі адкрыцця адзначалася, што станцыя дае магчымасць трансліраваць за межы Беларусі яе ўласныя тэлеперадачы і прымаць праграмы з Усходу і Захаду. Шырока адкрываюцца і міжнародныя каналы тэлефоннай сувязі. Першая чарга новай станцыі — гэта дзве антэны, якія працуюць у напрамках Азіяцкага і Еўрапейскага рэгіёнаў. Другая чарга дабавіць яшчэ тры антэны, і тады рэспубліка зможа ў поўную сілу функцыянаваць у сістэмах «Еўтэлсат» і «Інтэлсат».

Магчымасці тэлепорта ўжо ў дзень адкрыцця змаглі ацаніць Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка і амерыканскі пасол Кенэт Яловіц, якія некалькі хвілін гутарылі па тэлефоне з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у ЗША Сяргеем Мартынавым. Для таго, каб звязацца з абанементам за мяжой, спатрэбілася ўсяго некалькі секунд.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## КАЛЕКТЫВУ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА

*Дарагія таварышы!*

*Юбілей Беларускага дзяржаўнага універсітэта — знамянальная падзея ў культурным жыцці рэспублікі. Створаны ў пачатковы перыяд рэвалюцыйнай перабудовы краіны, універсітэт прайшоў разам з ёю слаўны гістарычны шлях, унёс важкі ўклад у яе адраджэнне, сацыяльна-эканамічнае і духоўнае развіццё. Сёння ён з'яўляецца вядучай навучальнай установай у нацыянальнай сістэме вышэйшай прафесіянальнай адукацыі. Гэта буйнейшы навукова-адукацыйны цэнтр Беларусі, ролю і значэнне якога цяжка пераацаніць. Мы па праву ганарымся дасягненнямі і добрымі традыцыямі вашага калектыву, галоўнай задачай якога з'яўляецца якасная падрыхтоўка спецыялістаў, умацаванне інтэлектуальна-творчага патэнцыялу дзяржавы, навучанне і выхаванне моладзі.*

*Удасканальваючы сістэму грамадскіх адносінаў, мы разлічваем на актыўную падтрымку, прафесіяналізм і плённы ўдзел у гэтым працэсе навукова-педагагічных работнікаў, аспірантаў і студэнтаў універсітэта.*

*Не сумняваюся, што ваш талент і інтэлект, грамадская свядомасць і адказнасць паслужаць стварэнню духоўных перадумоў для разумнага пераўтварэння рэчаіснасці на сапраўды гуманістычных асновах, будаўніцтва цывілізаванага, гарманічнага грамадства. Аб'яднаўшы намаганні ўсяго народа, работнікаў разумовай і фізічнай працы, мы пабудуем такое грамадства — сапраўды дэмакратычнае, законам жыцця якога з'яўляецца клопат аб чалавеку, яго дабрабыце і працвітанні.*

*Жадаю калектыву універсітэта новых творчых поспехаў і натхнення на карысць нашай Айчыны.*

*Добрага вам здароўя і вялікага асабістага шчасця.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

31 кастрычніка 1996 года.

## ТАМАРА ВІННІКАВА НАЗНАЧАНА ПАЎНАМОЦНЫМ ПРАДСТАЎНІКОМ БЕЛАРУСІ Ў САВЕЦЕ МІЖДЗЯРЖАЎНАГА БАНКА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выдаў 1 лістапада ўказ, у якім пастанавіў, што ў адпаведнасці з Пагадненнем аб заснаванні Міждзяржаўнага банка, якое было падпісана 22 студзеня 1993 года, назначыць старшыню праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Тамару Віннікаву паўнамоцным прадстаўніком Беларусі ў савеце Міждзяржаўнага банка, вызваліўшы ад гэтых абавязкаў Станіслава Багданкевіча.

Гэтым жа ўказам намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Павел Калаур і першы намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас назначаны намеснікамі паўнамоцнага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь у савеце Міждзяржаўнага банка. Іван Пішчык і Мікалай Лісай вызвалены ад гэтых абавязкаў.

**БЕЛТА.**

### «ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР» У МАГІЛЁВЕ

## *Удзельнікам Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-96»*

Сардэчна вітаю ўсіх удзельнікаў і гасцей Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-96» на гасціннай беларускай зямлі.

Рад адзначыць, што гэта свята песні становіцца традыцыйным, упэўнена набірае сілу і займае дастойнае месца сярод яркіх культурных акцый, якія праводзяцца ў нашай рэспубліцы.

Спадзяюся, што фестываль будзе яшчэ адным крокам да духоўнага яднання творчай інтэлігенцыі нашых краін, яркім сведчаннем непарушнай дружбы паміж народамі.

Выказваю глыбокую ўдзячнасць усім майстрам мастацтваў, якія прыбылі на фестываль, за высакародныя ідэі прыгажосці, дабра і духоўнасці, што вы несяце людзям.

Жадаю ўсім удзельнікам Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-96» яркіх хвалюючых сустрэч, творчых поспехаў, шчасця і дабрабыту.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*1 лістапада 1996 года.*



**Фрагмент фестывалю.**
**Фота Аляксандра ГРАДЗЯНСКАГА.**

## МІНСКІ МЕДІНСТЫТУТ СТАНЕ Ў ФАРВАТЭРЫ ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФОРМАЎ АЙЧЫННАЙ СІСТЭМЫ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ

Услед за Белдзяржуніверсітэтам Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, які калісьці быў створаны на яго базе, таксама адзначыў сваё 75-годдзе. Гэтай даце 1 лістапада быў прысвечаны ўрачысты сход, у якім прынялі ўдзел Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, члены беларускага ўрада, кіраўнікі многіх ВНУ і навукова-даследчых інстытутаў і, вядома, выкладчыкі, супрацоўнікі і студэнты медінстытута.

Паводле прызнання рэктара медінстытута Аляксея Кубаркі, ва ўмовах эканамічнага крызісу гэтай навучальнай установе ўдавалася трымацца на плаву ў многім дзякуючы патэнцыялу, набытаму ў тыя гады. Таму прыемным фактам назваў рэктар клопаты аб адукацыі і навуцы, што праяўляюцца ў апошні час дзяржавай, і намер кіраўніцтва краіны аддаць у бліжэйшыя гады прыярытэт ахове здароўя насельніцтва рэспублікі. А тое, што такі намер ёсць, пацвердзіў у сваім выступленні Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

«Няма ў свеце больш высакароднай прафесіі, чым прафесія ўрача, — сказаў Прэзідэнт, вітаючы калектыў медінстытута. — Урач сустракае чалавека пры яго нараджэнні, клапоціцца аб яго здароўі на працягу ўсяго жыцця. Выпускнікі вашай ВНУ — сапраўды наш нацыянальны набытак. Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут выхоўвае грамадзян самай высокай пробы».

Спыніўшыся на гісторыі медінстытута, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што цяпер галоўная задача — не дапусціць зніжэння ўзроўню аховы здароўя, дасягнутага ў папярэднія гады. «Здароўе нацыі — прыярытэтны напрамак дзяржаўнай палітыкі, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Як вядома, дзеючая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе грамадзянам дзяржавы права на ахову здароўя, уключаючы магчымасць бясплатнага лячэння ў дзяржаўных лячэбных установах. Прапанаваны на рэферэндум праект змяненняў і дапаўненняў у ёй прадугледжвае дадатковыя гарантыі аховы здароўя нашых людзей».

Задачай дзяржаўнай важнасці назваў Прэзідэнт стварэнне для медыцынскіх работнікаў, і асабліва для маладых спецыялістаў, спрыяльных умоў працы і быту. Сваю ролю тут павінны адыграць і нядаўна падпісаныя Прэзідэнтам указы аб сацыяльнай падтрымцы моладзі, забеспячэнні льгот крэдытавання будаўніцтва жылля для маладых сем'яў. Як паведаміў Аляксандр Лукашэнка, цяпер вывучаецца магчымасць замацавання жылля за работнікамі аховы здароўя на вёсцы, прадугледжваецца прыняць шэраг заканадаўчых актаў па забеспячэнню медыцынскай дапамогай жыхароў чарнобыльскіх раёнаў. Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, што нядаўна была адобрана, прадугледжана павелічэнне бюджэтных асігнаванняў на развіццё аховы здароўя і прыцягнення ў гэту галіну недзяржаўных крыніц фінансавання. Усё гэта, на думку Прэзідэнта, дасць магчымасць павысіць статус медыцынскага работніка і аплату яго працы.

«Вядома, што хварэе не толькі чалавек, але і грамадства ў цэлым, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Калі хворы чакае ад урача, што той пазбавіць яго ад хваробы, то і народ чакае ад дзяржавы, ад сваіх лідэраў, што яны збавяць грамадства ад сацыяльнай немачы. Гэтыя сацыяльныя хваробы ў многім з'яўляюцца вынікам непрадуманай палітыкі, спадчынай часоў безуладдзя і хаосу. Выратавацца ад іх можна толькі дружнай работай усіх здаровых сіл беларускага народа. Я лічу сваім найпершым абавязкам захоўваць сацыяльны мір і належныя ўмовы для стваральнай працы кожнага беларускага грамадзяніна. Паспяхова правёўшы канстытуцыйную рэформу, мы зможам пакончыць з балансаваннем на краі палітычных узрушэнняў і заняцца стваральнай працай. І тады, рэалізаваўшы праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця, Беларусь увойдзе ў XXI стагоддзе як краіна з дынамічным развіццём, з добра развітой сістэмай аховы здароўя».

Вялікія надзеі на правядзенне рэформаў у медыцынскай галіне кіраўніцтва краіны звязвае перш за ўсё з паспяховай работай Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Прэзідэнт падтрымаў прапанову міністра аховы здароўя Інесы Драбышэўскай і калектыву медінстытута правесці рэформу вышэйшай медыцынскай адукацыі. Аляксандр Лукашэнка выказаў гатоўнасць падпісаць указ аб наданні Мінскаму дзяржаўнаму інстытуту статусу вядучай ВНУ рэспублікі ў галіне медыцынскай адукацыі. «Добра, што вы пад апладысменты ўзялі на сябе задачу стаць галаўной ВНУ па падрыхтоўцы кадраў, бо кадры ва ўсе часы вырашалі і будуць вырашаць усё, - сказаў Прэзідэнт. — Я б хацеў, каб нашы медыцынскія ВНУ, дзе галаўной будзе мінская, аб'ядналіся разам з навукова-даследчымі інстытутамі ў адзіную сістэму і на чале з Міністэрствам аховы здароўя рэфарміравалі б нашу медыцыну. Менавіта вы будзеце рыхтаваць кадры для рэалізацыі гэтай канцэпцыі».

Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю ў краіне, кіраўніцтва рэспублікі прыняло рашэнне аб матэрыяльнай падтрымцы Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Як паведаміў Аляксандр Лукашэнка, у бліжэйшы час будуць выдзелены сродкі для рамонту вучэбных карпусаў ВНУ, студэнцкіх інтэрнатаў, набыцця мэблі і абсталявання, выдання падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. У абавязковым парадку дзяржава дапаможа перааснасціць і базу цэнтральнай навукова-даследчай лабараторыі інстытута.

У гэты дзень калектыў медінстытута атрымаў нямала віншаванняў і пажаданняў. Многім супрацоўнікам ВНУ былі ўручаны ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, міністэрстваў аховы здароўя, адукацыі і навукі, прафсаюзаў. 100 мільёнаў рублёў на ўмацаванне матэрыяльнай базы інстытута выдзеліў Мінгарвыканкам.

❑

Як паведамлялася ўжо, на ўрачыстым сходзе Аляксандру Лукашэнку прыйшлося прыняць рашэнне аб зняцці з пасады міністра абароны Леаніда Мальцава, які прыйшоў на гэта мерапрыемства ў нецвярозым стане. Папрасіўшы ў прысутных прабачэння, Прэзідэнт сказаў: «На жаль, мы страцілі нядрэннага генерала, але жыццё ёсць жыццё, і кожны чалавек павінен адказваць на свае ўчынкі».

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ЮБІЛЕЙ БДУ СТАЎ «ЗОРНЫМ» У ПРАМЫМ І Ў ПЕРАНОСНЫМ СЭНСЕ

Яркім святкаваннем завяршыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 75-годдзю галоўнай ВНУ рэспублікі. 1 лістапада мінчане змаглі ўволю павесяліцца ў час прадстаўлення, якое разыгралі студэнты БДУ каля Палаца спорту. А вечарам таго ж дня ў самім палацы адбылася грандыёзная шоу-праграма «Віват, альма матэр!».

Прысутных прывітаў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч. Ён зачытаў віншаванне галоўнай ВНУ краіны ад Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

Навіна, якую паведаміў затым рэктар ВНУ Аляксандр Казулін, была сустрэта вельмі бурна: адна з зорак у сузор'і Андрамеды будзе насіць цяпер імя Белдзяржуніверсітэта. Сертыфікат з гэтай нагоды падпісаў асабіста Біл Клінтан. Такога гонару, дарэчы, былі ўдастоены толькі дзве навучальныя ўстановы ў свеце: універсітэт амерыканскага штата Мічыган і Оксфард. Не магло не абрадаваць студэнтаў і паведамленне аб тым, што цяпер стыпендыя ў БДУ ўстаноўлена на 45 працэнтаў вышэй, чым у іншых ВНУ, а зарплата яго выпускнікоў будзе большай на 10 працэнтаў.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 444*

**Аб узнагароджанні групы работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта медалём Францыска Скарыны**

За выдатныя дасягненні ў галіне навукі і адукацыі ўзнагародзіць медалём Францыска Скарыны групу работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта:

**Аношку** Валерыя Станіслававіча — загадчыка кафедры глебазнаўства і геалогіі

**Капуцкага** Фёдара Мікалаевіча — загадчыка лабараторыі фізічнай хіміі і мадыфікацыі цэлюлозы Навукова-даследчага інстытута фізіка-хімічных праблем.

**Шарапу** Аляксандра Віктаравіча — дэкана факультэта міжнародных адносінаў

**Юхо** Іосіфа Аляксандравіча — прафесара кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*31 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 445*

**Аб прысваенні групе работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта ганаровых званняў Рэспублікі Беларусь**

За вялікі асабісты ўклад у падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў, шматгадовую плённую педагагічную і навуковую дзейнасць прысвоіць групе работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта ганаровыя званні Рэспублікі Беларусь:

***«Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь»***

**Загарульскаму** Эдуарду Міхайлавічу — загадчыку кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін

**Карзюку** Віктару Іванавічу —прарэктару па вучэбнай рабоце

**Мулярчыку** Сцяпану Рыгоравічу — дэкану факультэта радыёфізікі і электронікі

**Цікоцкаму** Міхаілу Яўгенавічу — прафесару кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання

***«Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь»***

**Барышэўскаму** Уладзіміру Рыгоравічу — дырэктару Навукова-даследчага інстытута ядзерных праблем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце

**Зелянкову** Анатолію Ізотавічу — загадчыку кафедры філасофіі і метадалогіі навукі

**Камяку** Анатолію Іванавічу — загадчыку кафедры лазернай фізікі і спектраскапіі

**Юрчуку** Мікалаю Іосіфавічу — дэкану механіка-матэматычнага факультэта

***«Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь»***

**Юркевічу** Мікалаю Рыгоравічу — прафесару кафедры грамадзянскага працэсу і працоўнага права.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*31 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.*

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 685

АБ УЗНАГАРОДЖАННІ МІНСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА МЕДЫЦЫНСКАГА ІНСТЫТУТА ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЕ:

За вялікі ўклад у падрыхтоўку ўрачэбных кадраў і развіццё медыцынскай навукі і ў сувязі з 75-годдзем з дня ўтварэння ўзнагародзіць Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут Ганаровай граматай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь**
**М.ЧЫГІР.**

*30 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.*

## ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб прысваенні ганаровага звання «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» балетмайстру народнага ансамбля танца «Крыжачок» Беларускага дзяржаўнага універсітэта Наталлі Леанідаўне Янушкевіч. Тым самым адзначаны яе значны асабісты ўклад у развіццё харэаграфічнага мастацтва.

**БЕЛТА.**

## МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ СУСТРЭЎСЯ З КІРАЎНІКАМІ ЗАМЕЖНЫХ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ МІСІЙ

Рабочая сустрэча кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча з кіраўнікамі замежных дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Мінску, адбылася 31 кастрычніка ў Міністэрстве замежных спраў. У ходзе гутаркі кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта выклаў замежным дыпламатам пункт гледжання кіраўніцтва краіны на развіццё ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Міхаіл Мясніковіч, у прыватнасці, заявіў, што Прэзідэнт краіны цвёрды ў імкненні вырашыць узнікшы канстытуцыйны крызіс выключна прававымі метадамі, эвалюцыйным і дэмакратычным шляхам. Ён падкрэсліў, што змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю краіны, якія прапануюцца кіраўніком дзяржавы, прайшлі экспертызу шырокага кола вядомых замежных правазнаўцаў. Многія іх заўвагі, а таксама прапановы, якія паступілі ў ходзе ўсенароднага абмеркавання, знайшлі адлюстраванне ў праекце змяненняў у Асноўны Закон, які выносіцца на рэферэндум.

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта паведаміў дыпламатам, што за ходам рэферэндуму і давыбараў у парламент будзе сачыць вялікая колькасць замежных наглядальнікаў, якія дадуць аб'ектыўную ацэнку адпаведнасці працэдуры галасавання міжнародным дэмакратычным нормам.

**БЕЛТА.**

# ДАСЛОЎНА

## Уладзімір ГАНЧАРЫК:

# «ПАКУЛЬ НАША ЭКАНОМІКА БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ ТАК, ЯК ЗАРАЗ, ЧАКАЦЬ НЕЙКАГА ПРАСВЕТУ НЕЛЬГА»

(Заканчэнне. Пачатак у № 261)

***— Сёлета было вельмі цяжка атрымаць пуцёўку на аздараўленне. Што чакае нас усіх у наступным годзе?***

**Зоя Пятроўна Вішнявецкая, Віцебск.**

***— Зараз тыя, хто працуе ў тэатры оперы і балета, нават самыя хворыя людзі, не маюць магчымасці паправіць сваё здароўе. Скажыце, так цяпер будзе заўсёды?***

**Таццяна Пархімовіч, Мінск.**

— Паколькі было парушана Генеральнае пагадненне, атрымаць сёлета пуцёўку сапраўды было цяжка. У пагадненні прадугледжана, што выдаткі на аздараўленне складуць 1,53 працэнта ад фонду аплаты працы, па сутнасці ж атрымалася толькі 0,6 працэнта. Прыйшлося выкручвацца: нейкую частку грошай далі самі прадпрыемствы, нейкую — прафсаюзы. Але ў выніку ўдалося вырашыць толькі адну праблему — захаваць на ўзроўні мінулага года аздараўленне дзяцей. Разам з тым мы былі вымушаны ледзь не ў чатыры разы скараціць колькасць пуцёвак для дарослых.

Наконт прагнозу на 1997 г.: думаю, што будзе таксама складана. Зараз мы зноў пачынаем перамовы з урадам, але хвалюе іншае: як толькі прафсаюзы пачынаюць паводзіць сябе больш настойліва, адразу пачынаюцца спекуляцыі вакол нашай дзейнасці. Аднак мы пераканаsuccessful, што пытанні сацыяльнага страхавання павінны застацца за прафсаюзамі, і просім працоўныя калектывы падтрымаць нас у гэтым. Так, прынамсі, будзе танней.

***— У рэспубліцы склалася даволі цяжкая сітуацыя з забеспячэннем нашых грамадзян жыллём. Якія захады робіць па гэтаму пытанню Федэрацыя прафсаюзаў?***

**Іван Мікалаевіч Катовіч, Мінск.**

— Усе апошнія ўказы Прэзідэнта, якія датычацца праблемы жылля, у той ці ў іншай ступені ўлічваюць прапановы Федэрацыі прафсаюзаў. Я думаю, што Адміністрацыя Прэзідэнта, урад зрабілі абсалютна правільна, што пайшлі на ўліванне ў будаўніцтва часткі «пустых» грошай. Вядома, спасылкі на інфляцыю слушныя, але іншага выйсця няма. І тое, што ўдалося на 60 працэнтаў павялічыць аб'ёмы будаўніцтва, адбылося толькі дзякуючы крэдытам.

Аднак не варта забывацца яшчэ на адзін момант: калі адначасова не павялічваць даходы насельніцтва, справа зойдзе ў тупік. У людзей проста не будзе грошай, каб набыць сабе кватэру.

***— Звоніць загадчык творчага аддзела Дома настаўніка Барздова Надзея Юр'еўна. Хацелася б закрануць такую няпростую тэму, як прафсаюзы і культура сёння. Уладзімір Іванавіч, якія адносіны Федэрацыі прафсаюзаў да самадзейнай народнай творчасці, як нам разам яе захаваць?***

— Ёсць асобныя меркаванні, што Федэрацыя, прафсаюзы павінны выконваць чыста свае функцыі — займацца пытаннямі працы, зарплаты і г. д. Але асабіста я перакананы, што прафсаюзы не павінны згортваць сваю дзейнасць і па іншых напрамках. Тым больш, што практыка сведчыць: там, адкуль мы сыходзім, лепш не становіцца. Напрыклад, дзяржава ўзяла на сябе ахову працы, стварыла інспекцыю, але ці з'явіліся ў выніку станоўчыя зрухі? Пытанне, ды яшчэ якое.

Таму мы будзем падтрымліваць і культуру, і фізкультуру. Нават ва ўрон іншым мэтам. Не сакрэт, што сёння ў нас з'явілася даволі вострая праблема з прафсаюзнымі ўзносамі. Яны ўплачваюцца, але па невядомых прычынах на рахунак прафсаюзаў не пералічваюцца. Адсюль і пэўныя праблемы з падтрымкай тых жа самадзейных калектываў. Але, паўтаруся, ад іх мы не адмовімся ніколі. Нельга адмаўляцца ад таго, чым прафсаюзы маюць падставы ганарыцца як ніхто іншы.

### ПАЗІЦЫЯ

**Тая акалічнасць, што сёння на авансцэну грамадскага жыцця Беларусі ўсё больш упэўнена выходзяць прафсаюзы, зусім не выпадковая — гэтага патрабуе як эканамічная, так і палітычная сітуацыя ў краіне. Адпаведна, узнікла падчас «прамой лініі» цікавасць чытачоў і да пазіцыі самой Федэрацыі, яе погляду на развіццё рэспублікі.**

***— Наколькі мне вядома, у Федэрацыі прафсаюзаў былі ўласныя прапановы наконт праграмы Асноўных накірункаў развіцця Беларусі да 2000 года. Што з гэтымі прапановамі?***

**Аляксандр Леанідавіч Цылеў, Віцебск.**

— Так, у нас былі свае прапановы, больш таго, прафсаюзы сталі непасрэднымі распрацоўшчыкамі сацыяльнага блока Асноўных накірункаў. Думаю, што ён атрымаўся.

Але трэба добра разумець, што пакуль гэта нават не праграма, а, скажам так, канцэпцыя. Праграма павінна быць больш канкрэтнай, больш навукова абгрунтаванай. Дарэчы, ёсць у прафсаюзаў і шэраг заўваг па Асноўных накірунках. Па сутнасці, у іх не вытрымліваюцца суадносіны паміж ростам заработнай платы і ростам унутранага валавога прадукту. Калі раней зарплата адставала ад тэмпаў росту цэн, то зараз даходы насельніцтва павінны расці больш хутка. Патрэбна хоць як-небудзь кампенсаваць страчанае. Але ў прапанаванай праграме гэтага няма. Таму дакумент адназначна патрабуе дапрацоўкі.

***— Мяне цікавіць пазіцыя прафсаюзаў у адносінах да Усебеларускага народнага сходу. Чаму вы не падтрымалі яго рэзалюцыю?***

**Віктар Сухой, Мінск.**

— Рэзалюцыя Усебеларускага народнага сходу зводзілася да падтрымкі двух дакументаў — праграмы Асноўных накірункаў развіцця да 2000 года і прапанаванага Прэзідэнтам праекта Канстытуцыі.

Нашы адносіны да праграмы Асноўных накірункаў вядомыя — іх трэба дапрацоўваць. Што да праекта Канстытуцыі, я не мог падтрымаць яго хаця б з-за 5-га артыкула. Апроч іншага, ён забараняе дзейнасць на Беларусі грамадскіх арганізацый, якія прапагандуюць сацыяльную варожасць. Але давайце разбяромся, што такое «сацыяльная варожасць»? Напрыклад, прафсаюз выступіў супраць кіраўніка прадпрыемства. Вось вам, калі хочаце, і сацыяльная варожасць, прафсаюз павінен быць забаронены. На наш погляд, 5-ы артыкул у сваім цяперашнім выглядзе — гэта міна, якая закладзена і пад партыі, і пад прафсаюзы, і пад іншыя грамадскія аб'яднанні. Яго прымаць нельга.

Гэта адна прычына, чаму я галасаваў супраць. Ёсць і іншыя. Мы лічым, што Прэзідэнта трэба падтрымаць. І мы яго падтрымалі, калі выказаліся супраць альтэрнатыўнага праекта Канстытуцыі, Канстытуцыі без пасады Прэзідэнта. Але скажыце, ці павінен Прэзідэнт адказваць за парушэнні Асноўнага закона? Так, павінен. Але ў прапанаваным ім праекце Канстытуцыі аб гэтым не сказана. Далей. Хто павінен кантраляваць расходы народных сродкаў, бюджэту? Ва ўсім свеце адказ адзін — парламент. Чаму мы павінны ісці іншым шляхам?

З улікам гэтага прафсаюзы зноў прапаноўваюць кампрамісны варыянт — давайце створым пагаджальную камісію з прадстаўнікоў Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, удзельнікаў Усебеларускага сходу. Давайце яшчэ раз добра падумаем, давайце сапраўды падзелім улады, няхай выканаўчую ўладу ўзначальвае ўрад. Давайце, калі будзе такое жаданне, працягнем тэрміны паўнамоцтваў і Прэзідэнта, і Вярхоўнага Савета. Але давайце не будзем уцягваць у гэтыя палітычныя гульні народ.

***— Турбуе Міхаіл Ціхановіч з Салігорска. У мяне пытанне наконт рэферэндуму. Як вядома, непісьменнасць у нас ліквідавана толькі ў 1956 годзе. Зараз нам прапануюць выказаць сваю думку па надзвычай складанаму юрыдычнаму дакументу — Канстытуцыі. Але ці змогуць тыя людзі, якія скончылі 1-2 класы, разабрацца ў ім? Прабачце, мне здаецца, што ў гэтых варунках выбар будзе зроблены чыста па інтуіцыі...***

— Я таксама не прыхільнік прыняцця Канстытуцыі рэферэндумам. Я згодны з вамі, такі дакумент нельга ацаніць адразу, патрэбна спецыяльная падрыхтоўка. Вы таксама маеце рацыю, што шмат нашых людзей будзе галасаваць не за саму Канстытуцыю, а непасрэдна «за» альбо «супраць» Прэзідэнта.

***— Ёсць яшчэ адно пытанне да вас, Уладзімір Іванавіч. Чуў нядаўна выступленне Прэзідэнта, у якім ён сказаў аб салігорскіх шахцёрах, што, маўляў, яны напіліся і пайшлі ў Мінск. Ведаеце, мне стала крыўдна за гэтых людзей. Нельга так казаць...***

— Нельга. Тым больш, што ўсе суды, якія адбыліся над гэтымі шахцёрамі, іх апраўдалі — не было саставу злачынства.

***— Дзень добры, Уладзімір Іванавіч. Гэта Сяргей Ціханаў з Мінска. Кажуць, што ёсць выпадкі, калі пры акцыяніраванні дырэктары скупляюць па 10—15 працэнтаў акцый прадпрыемства. Ці ёсць для іх якія-небудзь абмежаванні? І ўвогуле, як вы ставіцеся да прыватызацыі і да таго ж акцыяніравання?***

— Наконт 10—15 працэнтаў, гэта наўрад ці. Рашэнне аб акцыяніраванні прымае канферэнцыя працоўнага калектыву, якая і вызначае памеры пакетаў акцый.

Цяпер аб прыватызацыі ўвогуле. Сэнс любой змены формы ўласнасці толькі ў адным — каб былі эканамічная эфектыўнасць і сацыяльная справядлівасць. Акцыяніраванне мэтазгодна праводзіць толькі тады, калі хтосьці ўклаў у вытворчасць грошы. Гэта можа зрабіць сам працоўны калектыў. Але калі згодны ўкласці сродкі нехта збоку і атрымаць узамен пэўную частку акцый, гэтага не трэба баяцца, гэта нармальна. Лепш хваляваца з іншай нагоды — калі тыя ж акцыі будуць проста размеркаваны. І расійскі, і наш вопыт паказвае, што нічога добрага ў выніку не атрымаецца.

***— Такім чынам, патрэбны інвестар?***

— Так. Бяда, аднак, у тым, што знайсці яго вельмі цяжка. Такі прыклад. Быў днямі ў Расіі. Аказваецца, там па-ранейшаму збіраюцца будаваць новы трактарны завод. Мы ім прапаноўваем: дайце лепш частку капіталу на МТЗ, давайце працаваць разам — карысць будзе ўзаемная. Але, відаць, ёсць іншыя інтарэсы. Зрэшты, відавочная тут і перашкода — няма уніфікаванага заканадаўства. Аднак ёсць усе падставы меркаваць, што расійская Дзярждума і наш Вярхоўны Савет пераадолеюць гэта ўжо да снежня.

***— Уладзімір Іванавіч, на вашу думку, а ці мае сэнс чэкавая прыватызацыя?***

— Мы заўсёды былі супраць яе. Паўтаруся: задача тут іншая — прыцягнуць грошы і новыя тэхналогіі.

**— Але чэкі ў нас на руках. Як з імі быць?**

— Асабіста я, як дэпутат ад Чэрвеньскага раёна, уклаў свае чэкі ў мясцовую ПМК-8 і пакуль што нічога з гэтага не маю. Больш таго, не буду мець да таго часу, пакуль не запрацуе эканоміка.

### КАНФЛІКТЫ, СІТУАЦЫІ

**Безумоўна, да праблем, канфліктаў, розных непрыемных сітуацый можна адносіцца па-філасофску: маўляў, гэта жыццё. Але калі яны датычацца цябе асабіста альбо тваёй справы... Тады паняволі згодзімся: бяда. І страшна, калі з ёй застаешся сам-насам.**

***— У выступленні Прэзідэнта на форуме спартыўнай грамадскасці Беларусі прагучалі абвінавачанні ў адрас прафсаюзаў, што падведамныя ім спартыўныя аб'екты выкарыстоўваюцца ў камерцыйных мэтах. Як у такім разе разумець тое, што ў мінскім Палацы спорту працуюць толькі выстава-кірмаш і казіно, што легкаатлетычны манеж ва Уруччы ператварыўся ў краму дываноў, а стадыён «Дынама» — у рынак?***

**Уладзімір Шмакаў, Мінск.**

***— Скажыце, калі ласка, як растлумачыць заяву Прэзідэнта аб перадачы спартыўных аб'ектаў прафсаюзаў народу «іменем рэвалюцыі»?***

**Марыя Сяргееўна Раклецкая, Мінск.**

***— У сістэме прафсаюзаў працую ўжо 42 гады, інструктар па спорту. Мяне вельмі абурыла выступленне Прэзідэнта на форуме спартыўнай грамадскасці, дзе па сутнасці прафсаюзы былі названы вінаватымі ва ўсіх спартыўных недахопах. Па-мойму, стан фізкультуры і спорту перш-наперш павінен залежаць ад работы адпаведных міністэрстваў. Гэта па-першае. А па-другое, возьмем хаця б прыклад Мінска, дзе сёння працуюць адзін гарадскі і восем раённых спорткамітэтаў. Дык вось, сёлета ў традыцыйнай масавай галіновай спартакіядзе ад гор — і райспорткамітэтаў па лыжнаму спорту было выстаўлена 6 каманд, а ад прафсаюзаў — 25, па міні-футболу — 11 і 43 каманды адпаведна, па настольнаму тэнісу — 8 і 40, па легкаатлетычнаму кросу — 2 і 32, па гіравому спорту — 3 і 20 каманд. Цікава, хто ж у такім разе разваліў наш спорт на самай справе — прафсаюзы альбо спорткамітэты?***

**Разалія Фёдараўна Наўроцкая, Мінск.**

— Я думаю, што ў дадзеным выпадку Прэзідэнта падвяла залішняя эмацыянальнасць. Шчыра кажучы, асабіста мне за гэта выступленне Прэзідэнта было крыўдна. Але крыўдна ўдвая — за тых людзей, якія прадаставілі яму неаб'ектыўныя даныя. Дарэчы, яшчэ на тым жа форуме выступіў прадстаўнік Федэрацыі прафсаюзаў, які сказаў усё, як ёсць на самай справе. Нягледзячы на вялікія матэрыяльныя складанасці прафсаюзаў, мы захавалі ўсе нашы спартыўныя аб'екты менавіта для спорту. Вядома таксама, што ўсе нашы людзі працуюць альбо за невялікія грошы, альбо ўвогуле на грамадскіх пачатках. Нарэшце, факт застаецца фактам: 2/3 беларускіх спартсменаў-алімпійцаў — гэта выхаванцы прафсаюзаў.

У такіх варунках мы ўпэўнены, што проціпастаўленне прафсаюзаў дзяржаве пойдзе зусім не на карысць справе. Здаецца, мы, наадварот, павінны дапамагаць адзін аднаму, каб захаваць наш спорт, каб людзі маглі займацца ім бясплатна.

Што да прымусовай перадачы каму-небудзь спартыўных аб'ектаў прафсаюзаў, дык гэта парушэнне закона. Таму мы будзем абараняцца праз суды.

***— Частка калгаснікаў калгаса імя Будзённага Сенненскага раёна не атрымала дапамогі на лячэнне за 1995 год. Кіраўнік гаспадаркі не выканаў калектыўны дагавор, адхіліў нават заяву цяжарнай жанчыны аб прадастаўленні водпуску з ліпеня 1995 г. па студзень 1996 г. Прафком у гэтай сітуацыі нічым дапамагчы не здолеў. Што рабіць у выпадку, калі не выконваецца заканадаўства аб працы і калектыўны дагавор?***

**Мікалай Уласавіч Гарбачоў, Сенненскі раён.**

— Гэта пытанне павінна разгледзець камісія па працоўных спрэчках. Можна таксама звярнуцца ў працоўны арбітраж, у суд.

Аднак ёсць адно «але». У нашым заканадаўстве дагэтуль няма артыкула, які б вызначаў адказнасць наймальніка за парушэнне калектыўнай дамовы. І паколькі ў цяперашнім Вярхоўным Савеце шмат дэпутатаў прадстаўляюць інтарэсы менавіта наймальнікаў, гэта пытанне, нягледзячы на патрабаванні прафсаюзаў, пакуль блакіруецца.

***— Ці распаўсюджваецца калектыўны дагавор на нячленаў прафсаюза? У нас на Бярозаўскім сыраробным камбінаце працуюць чатыры такія чалавекі...***

**Леанід Міхайлавіч Грэчка, старшыня прафкома.**

— Калектыўны дагавор распаўсюджваецца на ўсіх работнікаў, ад імя якіх ён заключаны.

Як правіла, праблема часцей за ўсё вырашаецца па дамоўленасці паміж наймальнікамі і прафсаюзамі на кожным канкрэтным прадпрыемстве.

***— Працаваў у калгасе «Радзіма» Шчучынскага раёна загадчыкам нафтагаспадаркі. У маі 1993 г. быў звольнены па скарачэнню штатаў, а 12 кастрычніка таго ж года аднаўлены на працы рашэннем нарсуда. Аднак праўленне калгаса выконваць распараджэнне суда адмаўляецца. Што мне рабіць?***

**Васіль Калінавіч Лебедзевіч.**

— На жаль, падобныя сітуацыі сталі ўжо тыповымі, прычым асабліва безадказна паводзяць сябе кіраўнікі на вёсцы. Мы ўздымалі гэта пытанне на сустрэчы прадстаўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў з Прэзідэнтам, была нават спецыяльная праверка. Тым не менш, праблема не знікла. Таму прафсаюзы будуць яшчэ раз звяртацца да Прэзідэнта і ўрада. Трэба нарэшце спыніць гэты вэрхал.

Што асабіста да вас, Васіль Калінавіч, то мы будзем мець вашу бяду на ўвазе.

***— Звяртаюся па даручэнню калектыву работнікаў дзіцячага санаторыя «Сасновы бор» Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. З 25 жніўня 1996 г. санаторый закрылі на капітальны рамонт, а нас, супрацоўнікаў, адправілі ў адміністрацыйны водпуск на няпэўны час. Вось ужо два месяцы мы не працуем. Ці павінна быць нам частковая кампенсацыя за вымушаны водпуск? Калі так, то ў якіх памерах?***

**Марыя Фёдараўна Наканечнік, настаўніца.**

— У вымушаны водпуск без захавання заработнай платы можна адправіць толькі па пісьмовай заяве самога работніка. Калі вы такой заявы не пісалі, размова ідзе аб вымушаным прастоі не па віне работніка, які павінен аплачвацца ў памеры не менш як 2/3 тарыфнай стаўкі.

***— Гэта старшыня прафкома псіхіятрычнай бальніцы «Астроўля» Лідскага раёна Лобан Сяргей Уладзіміравіч. Сёння даведаўся, што прэзідэнцкія прэміяльныя, якія нам абяцаюць, мы павінны выплаціць з тых грошай, якія выдзелены на год на нашу бальніцу, што ніякіх дадатковых асігнаванняў на гэта няма... І яшчэ аб адным, Уладзімір Іванавіч. У снежні 1995 года было распараджэнне Кабінета Міністраў, якое дазваляла кіраўнікам лячэбных устаноў аказваць матэрыяльную дапамогу сваім супрацоўнікам. З Гродзенскага абласнога ўпраўлення аховы здароўя атрымалі ліст, у якім нам патлумачылі, што гэту дапамогу можна выплаціць толькі за кошт эканоміі сродкаў. На той час у нас сапраўды аказаліся зэканомленыя сродкі, і мы выплацілі 55 млн. рублёў на дапамогу. Але цяпер у рэвізійным упраўленні райвыканкома кажуць, што нельга было выплачваць тую дапамогу, бо ў красавіку 1996 г. з'явілася нейкае новае тлумачэнне распараджэння Кабінета Міністраў. Зараз замест выплачаных 55 мільёнаў, з усімі каэфіцыентамі і накруткамі, з нас патрабуюць вярнуць усе 150 млн. Атрымліваецца не зусім зразумела...***

— Сапраўды, Сяргей Уладзіміравіч, выплата прэміі робіцца за кошт сродкаў, якія прадугледжаны ў адпаведным бюджэце на ўтрыманне ўстаноў і арганізацый.

З вашым другім пытаннем трэба разабрацца больш дэталёва. Адзінае, што магу паабяцаць, дык гэта тое, што Федэрацыя прафсаюзаў без належнай увагі ваш званок не пакіне. Але відавочна, што падобная сітуацыя стала прамым вынікам нашай недасканалай, заблытанай падатковай сістэмы. Дарэчы, зараз у Вярхоўным Савеце падрыхтаваны новы праект Падатковага кодэкса. Трэба спадзявацца, што з яго прыняццем падобных накладак стане менш.

### АСАБІСТАЕ

**Вядома, кажуць перш-наперш пра тое, што баліць. Мы шчыра дзякуем С. Мілашу з Астравецкага раёна, М. Карчэўскаму з Мазыра, І. Шарэйке з Валожына, А. Андале з Пружанскага раёна, мінчаніну М. Савіку, дзесяткам іншых чытачоў, якія вырашылі звярнуцца са сваімі праблемамі да Уладзіміра Ганчарыка праз «Звязду». Па традыцыі ўсе вашы пытанні былі перададзены непасрэдна Уладзіміру Іванавічу. Тым не менш, некалькі асабістых зваротаў мы ўсё ж палічылі вартымі газетных старонак.**

***— Гэта турбуе Макарава Рыта Віктараўна з Валожына. Мой муж служыў у Афганістане. Ці мае ён, як афганец, права на атрыманне льготнага крэдыту на будоўлю жылля? У банку прапануюць крэдыт пад 5 працэнтаў. Ці можам мы ўзяць крэдыт бясплатна?***

— Якраз зараз мясцовыя ўлады павінны складаць спісы на прадастаўленне крэдытаў на будаўніцтва. Але бясплатна гэта атрымаецца наўрад ці. Хаця, мяркую, могуць быць выключэнні. Таму прапанова: напішыце ліст з усімі падрабязнасцямі вашай справы і накіруйце яго па адрасу: Мінск, праспект Машэрава, 21. Магчыма, чым-небудзь дапаможам.

***— У жніўні Лельчыцкі раён напаткала сапраўдная бяда — пасля моцнага ліўня пад вадой аказаліся палі, былі затоплены жылыя дамы. У газетах пісалі, што на ліквідацыю наступстваў і на падтрымку жыхароў раёна былі выдаткаваны сродкі. Аднак калі я звярнулася па дапамогу ў райвыканком, мне на высокіх тонах патлумачылі, што ніякай падтрымкі чакаць не варта. Што рабіць, куды звяртацца? Ці могуць чым-небудзь дапамагчы прафсаюзы?***

**Тамара Маргун, г. Лельчыцы.**

— У нас такое правіла: па хадайніцтву мясцовага прафкома Федэрацыя прафсаюзаў можа, па-першае, звярнуцца з просьбай аб дапамозе ў ваш райвыканком, а па-другое, мы можам аказаць гэтую дапамогу самі, за кошт сваіх сродкаў. Так што звяртайцеся ў прафком за хадайніцтвам.

***— Нядаўна даведалася, што я, як маці пяцярых дзяцей, магла б атрымліваць пенсію ўжо пасля 15 гадоў працы. Я працавала 38 гадоў. Чаму я не атрымліваю пенсію, па сутнасці, за двайны стаж?***

**Галіна Аляксандраўна Барысевіч, Мінск.**

— Я з вамі згодзен, паводле цяперашняга Закона аб пенсіях нярэдка атрымліваецца так, што людзі, якія шмат працавалі, атрымліваюць мізэрныя пенсіі. Я магу толькі паведаміць, што зараз рыхтуюцца змены ў пенсіённым заканадаўстве, якія, як чакаецца, будуць прыняты да новага года. У прыватнасці, плануецца, што будуць уведзены новыя каэфіцыенты. У выніку, па-першае, павялічыцца памер пенсій і, па-другое, людзі, якія добрасумленна працавалі, будуць атрымліваць больш, чым тыя, хто выпрацоўваў толькі апошнія перадпенсіённыя гады. Я таксама думаю, што нам, дэпутатам Вярхоўнага Савета, удасца ўлічыць і такія пытанні, як ваша.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**

## ХТО ДАПАМОЖА МНЕ, АДЗІНОКАМУ ІНВАЛІДУ?

***Мы, састарэлыя, адзінокія пенсіянеры, пры тым інваліды, маем вострую і пастаянную патрэбу ў пабочнай дапамозе. Хацелася б ведаць, ці належыць нам хоць нейкая грашовая надбаўка да нашай мізэрнай пенсіі?***

**К. Бязродных, г. Мінск.**

— Так, належыць, — адказвае на гэта пытанне, якое вельмі хвалюе многіх састарэлых, адзінокіх і пакрыўджаных лёсам людзей, **намеснік начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны В. КАРАЛЁВА.** — Згодна з арт. 33 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» да пенсіі па інваліднасці ўстанаўліваецца надбаўка на догляд:

— інвалідам І групы — 100 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту;

— адзінокім інвалідам ІІ групы, якія маюць патрэбу, па заключэнню медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій (МРЭК) або ўрачэбна-кансультацыйных камісій (УКК), у пастаяннай пабочнай дапамозе, а таксама пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, 50 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту.

Праўда, трэба ведаць, што ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку прадастаўлення і афармлення дакументаў для назначэння гэтых пенсій патрэба заяўніка ў пастаяннай пабочнай дапамозе пацвярджаецца выпіскай з акта агляду ў МРЭК, што пацвярджае адпаведнае заключэнне, або даведкай УКК.

А вось устанаўленне прыналежнасці грамадзян да адзінокіх адносіцца да кампетэнцыі камісіі па назначэнню пенсій, аб чым прымаецца адпаведнае рашэнне. Больш таго, пры ўстанаўленні такога факта аддзел сацыяльнай абароны мае права праводзіць абследаванне матэрыяльна-бытавога становішча заяўніка, у тым ліку шляхам апытання суседзяў.

## ДЗЕ МНЕ ЖЫЦЬ: У ГРОДНЕ ЦІ ВАЛОЖЫНЕ?

***У мяне стварылася вельмі складаная сітуацыя. У г. Гродне ёсць недабудаваная кааператыўная кватэра. Вось і даводзіцца жыць то ў Гродне, то ў бацькоў у Валожыне. Як мне быць? Ці маю я якія-небудзь ільготы на пагашэнне крэдыту?***

**Н. Свірыда, г. Валожын.**

Гэту няпростую жыццёвую сітуацыю **старшыня Валожынскага раённага выканаўчага камітэта Валянцін Іванавіч МАЛІШЭЎСКІ** растлумачыў так:

— З-за адсутнасці ў Валожыне Наталлі Рыгораўны Свірыда — яна знаходзілася ў г. Гродне — удакладненне пытанняў, выкладзеных у яе пісьме на адрас газеты «Звязда», разгледзілася з яе бацькам Рыгорам Ільічом Свірыдам.

Кааператыўная 2-пакаёвая кватэра пабудавана ў г. Гродне, таму высветліць штонебудзь аб ходзе яе будаўніцтва няма магчымасці. Але, выдзяляючы льготны крэдыт пад 5 працэнтаў гадавых, дзяржава ўжо прадаставіла адпаведныя льготы і ўзяла на сябе большую розніцу паміж існуючымі і прадастаўляемым працэнтам за крэдыт. Таму іншых ільгот на пагашэнне запазычанасці па крэдыту няма.

У сувязі з незавершаным будаўніцтвам дома і калі Наталля Рыгораўна па месцы жыхарства стаіць у чарзе на паляпшэнне жылёвых умоў у г. Гродне і пры наяўнасці ліміту на субсідыі, ёй неабходна звярнуцца ў мясцовыя органы ўлады па атрыманне адназаровых субсідый (пры адпаведнасці пэўных умоў выдачы).

**Р. S. Па пытаннях атрымання і будаўніцтва ўласнага жылля ў рэдакцыю звяртаюцца многія нашы чытачы. І тут можна параіць толькі адно: перш чым пачаць узвядзенне свайго дома ці будаўніцтва кватэры, трэба ўлічваць, ці ёсць на гэту справу неабходныя сродкі. Калі ж даводзіцца ўзяць у банку крэдыт, то яго варта своечасова пагашаць, а не прасіць новых дадатковых льготы і працэнтныя скідкі. Інакш можна трапіць у незайздросное становішча.**

## УКЛАДЧЫЦЫ — КАМПЕНСАЦЫЯ, А БАНКАЎСКІМ РАБОТНІКАМ — СПАГНАННІ

***Звяртаюся ў рэдакцыю па такому пытанню: згодна з унесенымі мною грашовымі ўкладамі належыць кампенсацыя. Аднак яе мне не выдаюць. Чаму?***

**В. Каладзінская, Гродзенскі раён.**

— Сапраўды, — пацвярджае **выконваючы абавязкі намесніка старшыні праўлення акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» А. БАРКУН,** — ваша чытачка здала ў Скідальскі філіял № 421 ААБ «Беларусбанк» дакументы, неабходныя для налічэння кампенсацыі ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 168 ад 8 мая 1996 г. «Аб кампенсацыі ўкладаў». На жаль, работнікамі філіяла пры афармленні дакументаў была дапушчана нядбайнасць, у выніку якой ветэрану не была своечасова налічана кампенсацыя.

Цяпер сума налічанай кампенсацыі пераведзена, згодна з заявай В. Каладзінскай, на яе рахунак, з якога яна можа атрымаць грошы ў любы час. Супрацоўнікі філіяла папрасілі ва ўкладчыцы прабачэння. Асобы, якія парушылі парадак налічэння і выплаты кампенсацыі, праявілі нядобрасумленнасць і адсутнасць чуласці да пажылога чалавека, атрымалі дысцыплінарныя спагнанні.

## КАБ НЕ БЫЛО ЦЁМНА

***Паважаная «Звязда», мы з жонкай атрымалі доўгачаканую кватэру. Усё добра, вось толькі ў спальні шпалеры ў нас брудна-зялёнага колеру, а кухня наогул пафарбавана ў сіні. А кватэра ж у нас на першым паверсе. Вось і жартуюць знаёмыя, што мы жывём, як дзеці падзямелля. Падкажыце, які выбраць колер, каб было светла і ўтульна.***

**Саша і Марына Коўтун, г. Баранавічы.**

Саша і Марына, як у народзе кажуць, хто любіць гарбуз, а хто агуркі. Панюцце ўтульнасці кожны чалавек разумее па-свойму. Аднак калі вы хочаце, каб у пакоі было светла, падбірайце пакі колер шпалераў ці афарбоўкі сцен, які мацней адбівае святло. У апошні час стала модным клеіць шпалеры на столь. Калі вы выберыце для гэтай мэты шпалеры не светла-вясёлых тонаў, дык у вашым пакоі будзе змрочна. Ніжэй прыводзім табліцу, з якой бачна, у якой ступені адбіваюць святло розныя колеры.

| *Колер* | *Адбіваемае святло, %* |
|---|---|
| Бялілы | 85 |
| светла-жоўты і светла- зялёны | 50—75 |
| ярка-жоўты | 55 |
| светла-сіні і цёмна-жоўты | 45 |
| светла-карычневы | 30 |
| зялёны | 30 |
| шэры | 30 |
| вохрава-жоўты | 25 |
| цёмна-чырвоны | 15—30 |
| цёмна-шэры | 10—15 |
| цёмна-зялёны | 15 |
| цёмна-сіні | 15 |
| чорны | 4 |

## ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ ХРЭН УРАДЗІЎ?

**Паважаная рэдакцыя! Ці ёсць у Беларусі прадпрыемствы, якія прымаюць у вялікай колькасці хрэн? Калі ёсць, ці можна даведацца іх адрас?**

**А. Іваноў, г. Міёры.**

Калі б гаворка ішла не пра вялікую колькасць гэтага прадукту, найперш чытачу можна было б параіць прадаваць хрэн самому. Напрыклад, у Мінску бабулькі прапаноўваюць яго пакупнікам ля многіх прадуктовых магазінаў. Праўда, хрэн — рэч спецыфічная, не кожнаму даспадобы, ды і не трэба яго шмат. Таму, як патлумачылі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, найлепш звярнуцца на перапрацоўчыя прадпрыемствы. Яны ёсць у любой вобласці, але, паколькі чытач дасылаў ліст з Віцебскай, будзе натуральна, калі ён пашукае шляхі збыту свайго ўраджаю на месцы жыхарства. У міністэрстве параілі звярнуцца ў «Віцебскхарчпром» (тэлефоны ў абласным цэнтры 36-62-86, 37-78-27), дзе павінны падказаць, які з заводаў вобласці зможа прыняць на перапрацоўку хрэн. Можна таксама звярнуцца ў абласное аб'яднанне па вытворчасці плодаагароднінай прадукцыі «Віцебскплодагароднінагас» (тэлефоны 36-54-07, 36-61-38).

## ПАКАШТУЙЦЕ «КІСЛАЙ КАПУСТЫ»

***Нядаўна па тэлевізары ў перадачы «Кола гісторыі» з вядучым Якубовічам пачула пра «кіслую капусту» — напой, які наталяе смагу, дае сілы, здымае стомленасць. Дайце, калі ласка, рэцэпт прыгатавання гэтага напою.***

**Т. Сасноўцава, г. Брэст.**

Кніга «Узорная кухня», выдадзеная ў Маскве ў 1892 г., змяшчае некалькі рэцэптаў кіслай капусты. Вось адзін з іх:

Узяць мукі крупчаткі 12 фунтаў, грэцкай 10 фунтаў, соладу пшанічнага 2 жмені, мякішу жытняга хлеба (высушыць) 12 фунтаў, усё змяшаць, заварыць 10 вёдрамі кіпеню і развесці халоднай вадой да пажаданай густаты. Калі адстаіцца, зліць у іншую кадку, пакласці 1 фунт разынак, 5 пучкоў мяты і заквасіць гушчай з-пад квасу (разынкі і мята павінны быць завязаны ў палатняны мяшочак). Калі закісне, разліць у бутэлькі, разынкі выняць з мяшочка і раскласці ў бутэлькі (па 1—3 штукі), куды разліць і капусту, добра закаркаваць і абвязаць вяроўкай.

## ЦЕНЯВЫ БІЗНЕС І МІНІМІЗАЦЫЯ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ

Ценявы бізнес мы разумеем проста: гэта любая дзейнасць, якая прыносіць даход і афіцыяльна не кантралюецца органамі дзяржаўнага кіравання. Такая дзейнасць дазваляе не плаціць афіцыяльных падаткаў, выкарыстоўваць дзяржаўную маёмасць для канспіратыўнага атрымання даходаў, але пры гэтым часта даводзіцца ўваходзіць у кантакт з крымінальнымі ці паўкрымінальнымі структурамі.

Аб канкрэтных фактах ажыццяўлення ценявога бізнесу звычайна ведаюць некаторыя работнікі органаў дзяржаўнага кіравання. Ведаюць, але лічаць за лепшае не ўмешвацца, зыходзячы з асабістых эканамічных інтарэсаў (атрымліваюць хабар у розных формах) ці нежадання сутыкацца з крымінальнымі або паўкрымінальнымі структурамі, якія звычайна кантралююць любыя развіты ценявы бізнес.

Ценявы бізнес атрымлівае найбольш магутнае развіццё ў краінах з занадта «зарэгуляванай» эканомікай і шырока быў распаўсюджаны ў цяперашніх краінах СНД, дзе толькі дзякуючы яму ўдавалася змякчаць таварны голад за кошт выпуску ці прывозу з-за мяжы нелегальных тавараў, забяспечваць насельніцтву неабходны для здавальняючых умоў жыцця дадатковы даход, развіваць гаспадарчыя сувязі паміж прадпрыемствамі ў абход афіцыяльна ўстанаўліваемых забарон і абмежаванняў.

Пры пераходзе ад адміністрацыйнай эканомікі да рыначнай доля ценявога бізнесу звычайна зніжаецца. У гэтай сферы застаецца толькі крымінальна каральная дзейнасць (напрыклад, продаж наркотыкаў, рэкет і г. д.).

Да сферы эканамічнага махлярства адносіцца ценявы бізнес, калі вынікі вытворчасці прадукцыі ці аказання паслуг прысвойвае не ўласнік прадпрыемства, а асобныя яго работнікі, якія выкарыстоўваюць абсталяванне прадпрыемства, афіцыяльна закупляемыя ім сыравіну, матэрыялы, электраэнергію і нават працу іншых работнікаў. Дзяржаўныя кантрольныя органы ў першую чаргу змагаюцца з ценявым бізнесам на дзяржаўных прадпрыемствах.

Падчас станаўлення рыначных адносін у нашай краіне распаўсюджанай разнавіднасцю ценявога бізнесу было стварэнне пры дзяржаўных прадпрыемствах камерцыйных структур, якія куплялі ў прадпрыемства прадукцыю па фіксаваных цэнах, а прадавалі па рыначных, забяспечваючы сабе на гэтай аперацыі значны даход.

Да махлярскіх аперацый з ценявым сектарам эканомікі можна аднесці набыццё камерцыйнымі структурамі ўласнасці па яўна заніжаных цэнах, што забяспечвае атрыманне дадатковага даходу (пры гэтым нельга ўпадаць і ў іншую крайнасць, калі працэсы прыватызацыі штучна тармозяцца з-за боязі прадаць маёмасць па заніжанай цане і мець сур'ёзныя непрыемнасці з кантралюючымі органамі).

Частковая вядзе ценявую дзейнасць і пераважная большасць гаспадарчых структур, якія не жадаюць плаціць падаткі ў поўным аб'ёме.

Пачатак у №№ 246, 249,250,256

*ГАСЦЁЎНЯ АСТАПА БЕНДЭРА*

# НЕСТАНДАРТНЫЯ МЕТАДЫ БІЗНЕСУ І ЭКАНАМІЧНАЕ МАХЛЯРСТВА

(ВЫТРЫМКІ З КНІГІ)

### МЕТАДЫ МІНІМІЗАЦЫІ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ

Мінімізацыя падаткаабкладання сама па сабе не з'яўляецца махлярскай аперацыяй і не заўсёды адносіцца да сферы ценявога бізнесу. Усё залежыць ад прымяняемых метадаў.

У любой сістэме падаткаабкладання ёсць мноства спецыфічных для гэтай сістэмы прылазаў для законнай мінімізацыі падаткаў. Прычым гэтыя спецыфічныя метады зніжэння падаткаў часта не могуць быць рэалізаваны ў іншых сістэмах падаткаабкладання.

Падатковае заканадаўства ўдасканальваецца ва ўсіх краінах. Асноўным напрамкам такога ўдасканалення з'яўляецца перш за ўсё ліквідацыя магчымасцей для ўхілення ад уплаты падаткаў. Дадзеныя сёння рэкамендацыі па выкарыстанню канкрэтных пралазаў могуць быць ліквідаваны ўжо заўтра шляхам унясення змяненняў у некаторыя нарматыўныя акты. Таму ў гэтым даведніку разглядаюцца пераважна агульныя метадалагічныя падыходы да змяншэння падаткаў.

Найбольш распаўсюджаныя наступныя метады мінімізацыі падаткаабкладання.

### ПРЫМІТЫЎНЫЯ МЕТАДЫ ЎХІЛЕННЯ АД ПАДАТКАЎ

Прадпрыемства можа паспрабаваць утаіць даход (прыбытак) шляхам:

**адкрыцця ў розных банках некалькіх разліковых рахункаў, у тым ліку не ўлічаных у падатковых органах, праводзенне праз іх разлікова-грашовых аперацый, не адлюстраваных у бухгалтарскім уліку;**

**вядзення «двайной бухгалтэрыі» і ўтойвання такім чынам выручкі і даходаў ад падаткаабкладання;**

**штучнай «самаліквідацыі» прадпрыемства перад чакаемай праверкай ці пасля праведзенай падатковым органам праверкі, якая выявіла значныя сумы схаваных ад падаткаабкладання даходаў;**

**рэгістрацыі прадпрыемстваў у адным раёне (горадзе), а адкрыцця рахункаў — у банках іншых гарадоў, ухілення ад уплаты падаткаў як па месцы рэгістрацыі, так і па месцы вядзення гаспадарчай дзейнасці;**

**завышэння сабекошту рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) за кошт затрат, якія не падлягаюць аднясенню на сабекошт;**

**заніжэння ў афіцыйных уліковых і плацежных дакументах па дагаворанасці бакоў кошту выкананых работ (аказаных паслуг) з правядзеннем рэальных разлікаў наяўнымі грашыма (ужо без адлюстравання ва ўліковых і справаздачных дакументах);**

**аб'яўлення дзейнасці з нулявым балансам, або з указанием, што фінансава-гаспадарчая дзейнасць не праводзілася.**

Выкладзеныя метады падатковым інспектарам добра вядомы і яны не могуць прынесці нават мінімальных станоўчых вынікаў.

### ВЫКАРЫСТАННЕ НЕЛЕГАЛЬНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА

Падрабляюцца ўстаноўчыя дакументы прадпрыемства, адпаведныя даведкі з падатковай інспекцыі і іншых дзяржаўных органаў; пячаткі і штампы гэтага прадпрыемства ў міліцыі не рэгіструюцца. Фармальнымі кіраўнікамі такіх прадпрыемстваў запрашаюць пабочных людзей, пры гэтым з даведкамі з псіхіятрычных дыспансераў аб наяўнасці ў іх няпоўнай свядомасці. Калі пабочная «грамадзяніна Фунта» запрасіць не ўдаецца, то выкарыстоўваюцца людзі з падробленымі дакументамі.

Прадпрыемства ажыццяўляе сваю дзейнасць да першай сур'ёзнай праверкі і затым знікае.

Ухіленне ад падаткаабкладання ажыццяўляецца наступнымі метадамі:

**Прадпрыемства становіцца на ўлік у падатковыя органы і проста не плаціць падаткі.**

**Рахунак прадпрыемства выкарыстоўваецца як транзітны рахунак для грошай даверлівых фірмаў і грамадзян, якія спадзяюцца (ці робяць выгляд, што спадзяюцца), што махляры выканаюць узятыя на сябе абавязацельствы па пастаўцы якіх-небудзь канкрэтных тавараў (гл. раздзел «Прадпрыемства падманвае прадпрыемства»).**

**«Вакол «Геркулеса» карміласе некалькі прыватных акцыянерных таварыстваў. Было, напрыклад, таварыства «Інтэнсіўнік». Старшынёй быў запрошаны Фунт. «Інтэнсіўнік» атрымаў ад «Геркулеса» вялікі аванс на нарыхтоўку чагосьці лясного — зістаршыня не абавязаны ведаць, чаго іменна. І тут жа лопнуў. Хтосьці загроб грошы, а Фунт сеў на паўгода. Пасля «Інтэнсіўніка» ўтварылася таварыства на веры «Працоўны кедр» — зразумела, пад старшынствам самавітага Фунта. Зразумела, аванс у «Геркулесе» на пастаўку вытрыманага кедра. Зразумела, нечаканы крах, хтосьці разбагацеў, а Фунт адпрацоўвае старшынскую стаўку — сядзіць. Потым «Піладапамога» — «Геркулес» — аванс — крах — хтосьці загроб — адседка. І зноў: аванс — «Геркулес» — «Паўднёвы лесасек» — для Фунта адседка — камусьці «куш» (Ільф І., Пятроў Я. «Залатое цяля»).**

(Натуральна, што атрыманне буйнога авансу ці нават банкаўскага крэдыту звычайна звязана з буйным хабарам работнікам пазычальніка.)

Разнавіднасцю нелегальнага прадпрыемства з'яўляецца юрыдычна афармлена, але без пастаноўкі яго на ўлік у падатковых органах.

**(Працяг будзе)**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 40 (59)




## З ДЫПЛОМАМ ДРЭННА, АЛЕ БЕЗ ЯГО — ЯШЧЭ ГОРШ

**Як стала вядома «Звяздзе», сёння на ўліку ў службах занятасці рэспублікі знаходзіцца 7511 выпускнікоў сярэдніх школ, 5055 выпускнікоў ВНУ і тэхнікумаў і 8 266 выпускнікоў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў. Для параўнання: па стану на 1 ліпеня гэтыя лічбы былі адпаведна 5130, 3338 і 5848 чалавек.**

Красамоўна: зараз кожны дзевяты беспрацоўны рэспублікі з'яўляецца менавіта нядаўнім выпускніком. Прычым асаблівую трывогу выклікае дынаміка росту беспрацоўя сярод атрымаўшых дыпломы. Зрэшты, без дакумента аб набыцці спецыяльнасці справы яшчэ горшыя: як сведчаць статыстыка, амаль 80 працэнтаў усіх беспрацоўных складаюць людзі рабочых прафесій.

**Сяргей ГРЫБ.**

## У «МАЛУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ» ПРЫЙШОЎ ЗАМЕЖНЫ ІНВЕСТАР

**У канцы мінулага тыдня ў рамках 4-га Міжнароднага кірмашу нерухомасці краін СНД прайшоў 16-ты мінскі аўкцыён.**

На жаль, слабая арганізацыя кірмашу і нешматлікі састаў яго ўдзельнікаў не далі магчымасці гэтаму міжнароднаму форуму вырашыць сапраўды значныя задачы рынку нерухомасці Беларусі. Адзіным суцяшэннем стаў паспяхова праведзены аўкцыён па продажы камунальнай уласнасці Мінска. З пяці прапануемых аб'ектаў былі прададзены тры лоты. У выніку востраі барацьбы, у якой удзельнічалі 7 прэтэндэнтаў, за рэкордную ў гісторыі аўкцыёнаў суму 3 млрд. 850 млн. рублёў быў прададзены будынак былога дзіцячага садзіка. Сапраўднай сенсацыяй аўкцыёну стаў продаж харчовага магазіна па вул. Караткевіча за 300 млн. рублёў. Новым гаспадаром прадпрыемства стала кансалтынгавая фірма з Каліфорніі (Злучаныя Штаты Амерыкі). Усяго ж чарговы аўкцыён прынёс гарадскому бюджэту 4 млрд. 221 млн. 500 тыс. рублёў. Перад аўкцыёнам старшыня Мінскага камітэта па кіраўніцтву дзяржмаёмасцю і прыватызацыі Тадэвуш Маліноўскі адзначыў, што тэмпы прыватызацыі ў горадзе прыметна ўзраслі. Аб гэтым сведчаць і правядзенне сталічных аўкцыёнаў два разы на месяц, і колькасць прадаваемых на іх аб'ектаў.

Старшыня Мінскгармаёмасці запрасіў усіх жадаючых на юбілейны, 100-ы аўкцыён у рамках праекта «Малая прыватызацыя ў Беларусі», які адбудзецца ў Мінску 13 лістапада ў вялікай зале ДК Белсаўпрофа.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*Паважаныя нашы бацькі, матуля Надзея Мікалаеўна і тата Леанід Фёдаравіч КУРБЫКІ. Горача і сардэчна віншуем Вас са святам — сярэбраным вяселлем. Жадаем здароўя, шчасця і даўгалецця, каб яшчэ шмат гадоў агеньчык вашай хаты зваў да Вас у госці.*

**Вашы дзеці Алена, Таццяна і Аляксандр.**



## ПРАДАЕЦЦА:

◆ Дом у вёсцы (100 кв. м), ёсць хлеў, лазня, гараж, участак 10 сотак, сад, побач лес, рака. Тэл. у Баранавічах 2-74-53, пасля 18 гадзін.

◆ Элітныя водаачышчальнікі для дома, міні-піўзавод (імпартныя, прыстасаваныя да нашых умоў). Тэл. (8-01634) 4-25-39.

◆ Трактар «МТЗ», рухавік «Д-243», трактар «ХТЗ-2511», усё новае. Тэл. (8-017) 242-84-18.

◆ Грузапасажырскі аўтобус на базе аўтамабіля «ГАЗ-53» 12 (пасажырскіх месцаў, грузавое аддзяленне 6 куб. м — 2500 $) у Капыльскім раёне. Тэл. (8-219) 39-4-76.

◆ Кнігі, каеты, кампакт-дыскі, камп'ютэрныя дыскі на англійскай мове.
Звяртацца: 220114, г. Мінск, а/с 128.

◆ Дом з гаспадарчымі пабудовамі, сад, агарод 40 сотак, лазня, калодзеж у г. п. Акцябрскі Гомельскай вобл.Тэл. (8-017) 232-85-40.

◆ «ВАЗ-21063», 87 г. в., у добрым стане, прабег 120.000 км. Тэл. у Барысаве 70-4-12.

◆ «М-2141», 91 г. в., 5 КПП, рухавік «ВАЗ-2106», 55 тыс. км, прычапное, 2600 $, торг.
г. Мазыр, тэл. (8-02351) 2-14-67, пасля 18.00.

◆ «ВАЗ-2101», 82 г. в., у добрым стане, у 1995 г. з Германіі, цана 1700 $. Тэл. (8-295) 73-1-75.

◆ «ВАЗ-21063», 88 г. в. у выдатным стане.
Звяртацца па тэл. (8-01597) 71-1-48 з 9.00 да 17.00. гадзін, 71-6-97 — пасля 20.00.

◆ «ІЖ-комбі», 88 г. в., у добрым стане, 1120 $. Тэл. (8-218) 37-3-35.

◆ Тэрмінова прадаецца
«ВАЗ-2108», 92 г. в. у выдатным стане, цана 3800 $. Званіць у Пінску (8-01653) 7-05-85.

◆ Аліментнае шчаня масціна (сабака, прывіты, ад імпартаваных бацькоў). Тэл. 277-48-48.

◆ «Сценка» новая, газавая пліта, прыхожая (плеценая), «сценка» б/к. г. Слуцк, тэл. 5-52-50.

◆ Катэдж у г. Смаргоні без унутраных работ, маецца сталярнае і сантэхабсталяванне, гараж, падвал, 15 сотак, побач возера. Тэл. (8-01592) 5-14-43.

◆ Камплекты часопісаў: «Вакол свету» (за 25 гадоў), «Геаграфія ў школе» (за 30 гадоў), кароткая геаграфічная энцыклапедыя ў 4-х тамах, даведнік па кветкаводству. Тэл. у Лідзе 2-53-25.

◆ Тэлевізар «Электрон» ч/б на запчасткі, энцыклапедыя народнай медыцыны (1-ы том), фотаапарат «Зоркі». Тэл. у Лідзе 2-53-25.

◆ Драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі ў Лагойску. Тэл. (8-274) 59-5-01.

◆ Дом 68 кв. м (участак 40 сотак, прыродны газ, сад) у Рэчыцкім раёне — 1300 $.
Тэл. у Магілёве 41-40-27.

◆ Калекцыянеру манеты 1773 г. вартасцю 5 кап., 3 кап. Звяртацца: 211156, Віцебская вобл., г. Чашнікі, в. Малыя Смольянцы, 21, Астравецкай Д. П.

◆ Дом у в. Бажкі (18 км ад Баранавіч) у добрым стане з прыватызаваным сядзібным участкам 35 сотак, садам і гаспадарчымі пабудовамі. Звяртацца: г. Ляхавічы, тэл. (8-01633) 2-11-56.

◆ «ГАЗ-69А», металічны верх, кузаў 79 г., кап. рамонт 95 г., ТА да 98 г.
г. Нясвіж, тэл. 55-6-50, вечарам. Анатоль.

◆ Трохпакаёвая кватэра ў в. Сітцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобл.
Рабочы тэл. (8-257) 2-15-19.

◆ — паляўнічае ружжо, замежнай вытворчасці, калібр 12;
— фанера таўшчынёй 10 мм ( 1,5х1,5 м), танна. Тэл. (8-01772) 44-6-65.

◆ Шчаня каўказскай аўчаркі з радаслоўнай, 2 месяцы, сабака, 150 $, торг.
Гродзенскай вобл., п. Уўе, тэл. 39-4-60.



## ВІНШУЕМ!

*З залатым вяселлем, Алена Васільеўна і Мікалай Антонавіч АХЛЕВІЧЫ з Завалочыц! Шчыра віншуем, жывіце доўга і шчасліва.*

**Вова і Юля Ахаевічы, г. Старыя Дарогі.**

*Віншуем Тамару і Валерыя ЯРЫГА з днём нараджэння. Моцнага здароўя, шчасця вам!*

**Ставіцкія, Клімовіч, Пракаповічы.**

*Віншуем з 45-годдзем Іосіфа Дамінікавіча ГРЫНЯВІЦКАГА. Жадаем, каб беды абыходзілі бокам, а слёзы былі толькі ад шчасця. Моцнага здароўя табе, усіх даброт.*

**Твае сябры з пас. Дружны.**

*Дарагая наша дачушка Жанна з г. п. Бешанковічы Віцебскай вобл.! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем здароўя, сямейнага дабрабыту, радасці і шчасця на ўсё жыццё.*

**Прызван, г. Хойнікі.**

*Віншуем з 60-годдзем Пятра Вікенцьевіча ГУБАРА. Жадаем бадзёрасці, шчасця. Хай заўжды цябе любяць дзеці і ўнукі, як ты іх. Здароўя табе.*

**З любоўю жонка, дзеці, унучка.**

*Віншуем Уладзіміра Аляксандравіча МАЗУРА з 50-годдзем. Зычым здароўя, удачы і доўгіх гадоў жыцця.*

**Супрацоўнікі, г. Брэст.**

*Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем са шлюбам Наскевіч Ваню (в. Лука) і Колаб Таццяну (г. п. Рэчыца). Зычым ладу, здароўя, дабрабыту. Жадаем пранесці каханне праз усё жыццё, захаваўшы чысціню пачуццяў.*

**Васіль, Зося, Віталік, Віка, в. Лука Кобрынскага раёна.**

*Віншуем дарагую мамачку Аляксандру Піліпаўну РУДНІЦКУЮ з 65-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця. Дзякуем за клопаты, любоў і ласку.*

**Дзеці, унукі, пас. Палескі.**

*Віншуем з днём нараджэння Наталлю Уладзіміраўну МІСАВЕЦ з в. Залужжа. Жадаем здароўя, святла і цяпла, любоўю хай поўніцца хата, хай бокам цябе абыходзіць бяда, а радасці будзе багата.*

**Валя і Лёня, Лена і Сярожа.**

*Віншуем з днём нараджэння Жорскага Вадзіма, народжанага на радзіме Я. Купалы. Вакол восеньскае хараство... Вадзім, мо і тваё сэрца нешта ўскалыхне... Светлага шляху табе.*

**Маці, бацька.**

## РОЗНАЕ

◆ Вышлю 2- томнік сачыненняў Лермантава, самавучыцель машынапісу, пласцінку Р. Ларэці (запіс 1960 г.); усё ў выдатным стане. Прышліце канверт з вашым адрасам, купон аб'явы «Звязды» па адрасу: 223310 Беразіно, п/с 681034.

◆ Вышлю 412 рацэптаў народнай медыцыны, парады гаспадыням. Звяртацца: 222620 Мінская вобл., г. Нясвіж, а/с 10.

◆ Шукальнікам перспектыў прапаную унікальныя магчымасці.
Звяртацца: 220114 г. Мінск, а/с 128.

◆ Мяняю пакой 16 кв. м. на раўназначны ў цэнтры г. Мінска. Тэл. 236-29-78 да 17 гадзін, Шостак.

◆ Мяняю 2-пакаёвую кватэру і пакой у цэнтры Мінска на 3-пакаёвую кватэру.
Тэл. 236-29-78 да 17 гадзін, Шостак.

◆ Складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часе нараджэння.
Тэл. 239-77-61.

◆ Аказваем аўдытарскія паслугі.
Тэл. 227-94-46.



## «СЮРПРЫЗ» БЕЗ СЮРПРЫЗАЎ НЕ АБЫДЗЕЦЦА...

Часопісы «Мурзилка» і «Веселые картинки» добра знаёмы старэйшаму пакаленню, якое літаральна вырасла на іх. А вось нашым дзецям пашанцавала значна менш: вельмі верагодна, што вялікая цана падпіскі на іх у будучым годзе (200 і 100 тыс. рублёў адпаведна) прымусіць многіх бацькоў адмовіць сваім дзецям у падобным задавальненні. Таму з'яўленне ў рэспубліцы новага беларускага часопіса для малодшых школьнікаў з інтрыгуючай назвай «Сюрпрыз» аказалася ў такой сітуацыі вельмі своечасовым.

«Сюрпрыз» — выданне пазнавальна-забаўляльнага і прыкладнога характару з цудоўным ілюстрацыйным матэрыялам. Яго рубрыкі «Праменьчык з канверта», «Азбука моды», «Гіпа-Гіпа Гіпакрат», «Машанька-майстрыха», «Мікіта-Майстар», «Ведай свае правы», «Чорная скрынка» і многія іншыя павінны аб'яднаць вакол сябе дзятву.

Ну і, нарэшце, які ж «Сюрпрыз» без сюрпрыза, а ён чакае маленькіх чытачоў у кожным нумары часопіса. Узнагародай пераможцам шматлікіх конкурсаў, віктарын і латарэй стануць дзіцячыя цацкі, гульнявыя прыстаўкі і... паездкі ў краіны далёкага замежжа!

А аформіць падпіску на «Сюрпрыз» у бацькоў ёсць магчымасць як на пошце, так і ў любым аддзяленні Ашчадбанка.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ПАСТАНОВА
### ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

**31 кастрычніка 1996 года**

**АБ РАСТЛУМАЧЭННІ ПЫТАННЯЎ, ЯКІЯ ЎЗНІКЛІ ПА ПРЫМЯНЕННЮ ЧАСТКІ ПЯТАЙ АРТЫКУЛА 31 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ НАРОДНЫМ ГАЛАСАВАННІ (РЭФЕРЭНДУМЕ) У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ» І ЧАСТЦЫ ДРУГОЙ АРТЫКУЛА 49 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ВЫБАРАХ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»**

У сувязі з пытаннямі, якія ўзніклі па прымяненню часткі пятай артыкула 31 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» і часткі другой артыкула 49 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», у мэтах аднолькавага прымянення Законаў, на падставе пункта 1 артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» і пункта 1 артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў пастанаўляе:

Растлумачыць, што пры атрыманні 24 лістапада 1996 бюлетэня для галасавання па рэспубліканскім рэферэндуме і бюлетэня для галасавання па выбарах дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь галасуючы ў спісе грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў, у рэспубліканскіх і мясцовых рэферэндумах, уласнаручна насупраць свайго прозвішча распісваецца:

— за атрыманне бюлетэня для галасавання па рэспубліканскім рэферэндуме ў графе «Подпіс галасуючага пры атрыманні бюлетэняў на выбарах, рэферэндумах», «на першым туры выбараў»;

— за атрыманне бюлетэня для галасавання па выбарах дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у графе «Подпіс галасуючага пры атрыманні бюлетэняў на выбарах, рэферэндумах» «на першым туры галасавання паўторных выбараў».

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В.ГАНЧАР.**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І.ЛІХАЧ.**

## ПАСТАНОВА
### ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

**31 кастрычніка 1996 года**

**АБ ХОДЗЕ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ПРАВЯДЗЕННЯ РЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ І ДАДАТКОВЫХ ПАЎТОРНЫХ ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Заслухаўшы інфармацыю старшынь абласных і Мінскай гарадской камісій па рэферэндуму, разгледзеўшы матэрыялы, прадстаўленыя Пракуратурай Рэспублікі Беларусь і Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў пастанаўляе:

Прапанаваць міністру фінансаў Рэспублікі Беларусь Дзіку П.У. да 5 лістапада 1996 года забяспечыць фінансаванне ў поўным аб'ёме дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» і ўзгадніць з Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў памеры, крыніцы і парадак расходавання сродкаў на фінансаванне мерапрыемстваў па правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В.ГАНЧАР.**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І.ЛІХАЧ.**

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД РАЗГЛЕДЗЕЎ ПАСТАНОВУ АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

**1 і 4 лістапада Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню». Пад разглядаемымі пунктамі 2.2 і 2.5 хаваюцца праекты змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, вынесеныя на рэферэндум Прэзідэнтам і групай парламентарыяў, а пад пунктам 3 — норма аб вынясенні іх на абавязковы рэферэндум.**

Стараной па справе судом быў вызначаны Вярхоўны Савет, а прадстаўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі нечакана для сябе сталі на гэтым працэсе сведкамі. Акрамя таго на пасяджэнне было запрошана шэсць экспертаў, юрыстаў з вучонымі ступенямі дактароў і кандыдатаў навук, і прадстаўнікі Мінюста, Генпракуратуры, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў. Судом былі атрыманы экспертныя заключэнні юрыстаў з Еўрапейскай камісіі «Да дэмакратыі праз права», а таксама іншых навукоўцаў з больш чым дзесятка еўрапейскіх краін, матэрыялы Беларускага Хельсінкскага камітэта, адказы на афіцыйныя запыты з Мінюста, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў і інш. Такім чынам, справа да слухання была падрыхтавана ўсебакова.

Цікавасць да гэтай падзеі была надзвычайная. Можна сказаць, нават ажыятажная. Пытанне стаяла ў тым, ці прызнае КС прапанаваныя праекты канстытуцыйных змяненняў новымі варыянтамі Канстытуцыі (і тады іх трэба будзе адклікаць з абавязковага рэферэндуму), ці ўсё ж палічыць іх змяненнямі і дапаўненнямі, што дасць ім зялёнае святло на рэферэндум 24 лістапада. Аднак напачатку дыскусія завязалася вакол іншага пытання: а ці мае Канстытуцыйны суд права разглядаць названую пастанову парламента, ці носіць яна для гэтага нарматыўны характар? Высветлілася, што пытанне нарматыўнасці дакументаў у нашым заканаўстве недастаткова адрэгуляванае. І таму адзін бок, у прыватнасці, парламенцкі, гаварыў аб магчымасці такога разгляду пастановы ў КС, а іншы, прэзідэнцкі, — аб немагчымасці. Лагічна, аднак, тое (калі не даказана адваротнае), што гэтая пастанова не носіць нарматыўнага характару — значыць дзейнічае так званая «прэзумпцыя нарматыўнасці», як выказаўся прадстаўнік Вярхоўнага Савета Антон Матусевіч, паставіўшы кропку ў гэтай дыскусіі.

Антону Матусевічу, дырэктару Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства задавалі шмат пытанняў, спрабуючы паставіць пад сумненне яго пазіцыю, але ён пасьпяхова аспрэчваў довады апанентаў. Аднак у цэлым трэба прызнаць, што пазіцыя Антона Матусевіча была дваякай. Па-першае, па логіцы, ён павінен быў бы адстойваць тэзіс аб канстытуцыйнасці прынятай парламентам пастановы ад 6 верасня. Па-другое, да яго звярталіся як да эксперта і высокакваліфікаванага спецыяліста ў сваёй галіне. З гэтай сітуацыі Антон Матусевіч выйшаў, зазначыўшы, што Вярхоўны Савет, прымаючы названую пастанову, лічыў, што яна адпавядае Канстытуцыі, а як эксперт ён асабіста не лічыць гэтую пастанову канстытуцыйнай у частцы вынясення пытанняў аб Канстытуцыі на абавязковы рэферэндум. Згодна з дзеючай Канстытуцыяй, да выключнай кампетэнцыі Вярхоўнага Савета адносіцца прыняцце новага Асноўнага закона, а змяненні і дапаўненні могуць прымацца і на рэферэндуме. Апаненты Матусевіча гэтага не абверглі. Ён пастараўся даказаць, што прапанаваны Прэзідэнтам праект — не што іншае, як новая Канстытуцыя. Аргументаваў ён гэта аналізам зместу прэзідэнцкіх змяненняў, а таксама словамі самога іх ініцыятара — А. Лукашэнкі, які неаднойчы выказваўся на гэту тэму і называў свой праект менавіта «праектам Канстытуцыі».

Па ходу А. Матусевіч разбіў некаторыя іншыя довады апанентаў, у прыватнасці, неаднаразова выказаную заяву наконт таго, што народ, паводле Канстытуцыі, з'яўляецца крыніцай улады і таму мае права прымаць Асноўны закон. Матусевіч зазначыў, што Канстытуцыя — не ўлада, а форма яе ўвасаблення, народ выступае ў якасці крыніцы ўлады праз выбары. На думку А. Матусевіча, гэта не азначае, што наш народ пазбаўлены права выказацца наконт Канстытуцыі, ён можа яе абмяркоўваць і галасаваць «за» ці «супраць» на кансультатыўным рэферэндуме, які не забаронены ў рамках існуючага права.

Апанентам А. Матусевіча выступіў намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандр Абрамовіч. Тут і выявілася, што калі парламенцкі бок зусім не хоча актыўна абараняць тэзіс аб канстытуцыйнасці сваёй пастановы ад 6 верасня, то прэзідэнцкі бок бярэ гэта на сябе. Гэта крыху дзіўна, бо яшчэ нядаўна з вуснаў А. Лукашэнкі і яго паплечнікаў шмат разоў гучала іншае: што пастанова гэта неканстытуцыйная, бо сумясціла два рэферэндумы ў адзін. 1 лістапада А. Абрамовіч заявіў, што бясспрэчных падстаў гаварыць аб неканстытуцыйнасці названай пастановы няма, хаця больш лагічна было б назначыць два рэферэндумы. А. Абрамовіч яшчэ раз падкрэсліў, што Канстытуцыйны суд не можа даваць заключэнне па гэтай пастанове і па вынесеных праектах. Ён падкрэсліў таксама, што, на яго думку, Прэзідэнтам прапанаваны змяненні і дапаўненні, а не новая Канстытуцыя. А. Абрамовіч паведаміў, што 24 кастрычніка Прэзідэнт накіраваў у Вярхоўны Савет новы варыянт Канстытуцыі для зацвярджэння яго ў якасці афіцыйнага тэксту праекта. Гэты варыянт зроблены з улікам усенароднага абмеркавання, але А. Абрамовіч не лічыць, што ў сувязі з гэтым патрэбна нанава назначаць рэферэндум, проста Прэзідэнт просіць унесці змены ў раней прынятыя пастановы, а Вярхоўны Савет можа пагадзіцца ці не пагадзіцца з ім. Калі такой згоды не будзе, то вынесеным на рэферэндум застанецца той праект, які быў апублікаваны ў пачатку верасня.

У ходзе слуханняў А. Абрамовіч выказаў некалькі іншых цікавых момантаў. Па-першае, ён заявіў, што працэдура падрыхтоўкі прэзідэнцкага варыянта змяненняў у Канстытуцыю не дае магчымасці ўлічыць інтарэсы іншых палітычных сіл і галін улады па прычыне таго, што на гэтым рэферэндуме «праводзіцца рэалізацыя адпаведных палітычных інтарэсаў Прэзідэнта». Па-другое, А. Абрамовіч заявіў, што калі на рэферэндуме пройдзе прэзідэнцкі праект, які прадугледжвае назначэнне кіраўнікоў мясцовых органаў улады, то нават калі на тым жа рэферэндуме людзі станоўча выкажуцца за выбары мясцовых кіраўнікоў, будзе дзейнічаць норма, унесеная ў канстытуцыйны праект аб назначэнні «вертыкалі». Гэта значыць, што, як ні выкажуцца выбаршчыкі, «вертыкаль» захаваецца ў ранейшым выглядзе. А. Абрамовіч аргументаваў гэта тым, што для Канстытуцыі прадугледжана вышэйшая планка для падачы за яе галасоў — звыш 50 працэнтаў выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

Затым выступілі запрошаныя на суд эксперты. Яны ў асноўным падтрымалі пазіцыю Антона Матусевіча. У прыватнасці, Варвара Сажына палічыла, што Прэзідэнтам зменена больш як 50 працэнтаў палажэнняў Канстытуцыі 1994 года, і гэта дало ёй падставу назваць праект А. Лукашэнкі новай Канстытуцыяй. Сяргей Леўшуноў заявіў таксама, што гэта новая Канстытуцыя. Анатоль Галаўко зазначыў, што гэта новы праект, які прадугледжвае «суперпрэзідэнцкую рэспубліку з бутафорскім парламентам». Юрый Броўка прапанаваў як магчымыя два варыянты выйсця з гэтай тупіковай сітуацыі: або спачатку абмяркоўваць новую Канстытуцыю ў Вярхоўным Савеце і вынесці яе пазней на зацвярджэнне рэферэндумам, або правесці спачатку кансультатыўны плебісцыт, вынікі якога пазней павінен будзе ўлічыць парламент.

У шматлікіх замежных экспертных ацэнках пераважалі ў асноўным негатыўныя выказванні адносна прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі, які называўся недэмакратычным, прыніжаючым ролю парламента і перавышаючым — Прэзідэнта. Не адпаведнай дэмакратычным паняццям прызнана працэдура фарміравання новага двухпалатнага парламента без выбараў, выказвалася сумненне ў тым, што магчыма правесці законны рэферэндум у Беларусі ва ўмовах кантролю выканаўчай улады за СМІ. Сацыяльныя гарантыі, якія прапануе ўнесці ў Канстытуцыю А. Лукашэнка, 12 еўрапейскіх спецыялістаў у галіне канстытуцыйнага права назвалі пустымі абяцанкамі. Яны ж падкрэслілі, што гэта не фашысцкі і не таталітарны варыянт Канстытуцыі, але ён лёгка можа стаць асновай для прэзідэнцкай дыктатуры.

Позна ўвечары 4 лістапада Канстытуцыйны суд павінен быў прыняць рашэнне.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Віктар Цімафеевіч ТУРАЎ



Беларускае мастацтва панесла непапраўную страту. На 61-м годзе жыцця пасля цяжкай працяглай хваробы памёр народны артыст СССР і Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, кінарэжысёр Віктар Цімафеевіч Тураў. Назаўсёды спынілася, перастала біцца яго не ведаючае спакою сэрца. Сэрца проста шчырага чалавека, вялікага беларускага майстра кіно, таленавітага мастака, адданага грамадзяніна і патрыёта сваёй Радзімы.

Віктар Цімафеевіч Тураў нарадзіўся ў г.Магілёве, і ўсё яго жыццё непарыўна звязана з лёсам беларускага народа. У дзіцячыя гады ён зведаў усе жахі фашысцкага канцэнтрацыйнага лагера, але выжыў, разам са сваім пакаленнем адольваў цяжкасці пасляваеннага часу. Аб гэтым пранікнёна, ярка і дакладна паведала адна з яго карцін «Я родам з дзяцінства». У ёй старонкі няпростай асабістай біяграфіі не толькі аўтара, але і ўсяго яго пакалення.

А пачынаў Віктар Тураў свой шлях у мастацтва пасля заканчэння Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве ў 1959 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм». Вучань выдатнага майстра А.Даўжэнкі стварыў сваю першую стужку «Наш Салігорск» у дакументальным кіно. І ўжо праз 37 гадоў у тым жа Салігорску ён здымаў і апошні свой мастацкі фільм «Шляхціц Завальня», будучы ўжо сам шляхціцам беларускага кінамастацтва, прызнаным майстрам экрана.

Міжнароднае прызнанне Віктар Тураў атрымаў ужо ў 1965 годзе пасля стварэння свайго першага поўнаметражнага фільма «Праз могілкі». У мінулым годзе гэты твор рашэннем спецыяльнай камісіі ЮНЕСКО ўвайшоў у лік ста лепшых фільмаў свету — шэдэўраў сусветнага кінематографа.

Далей у Віктара Турава было плённае супрацоўніцтва з Алесем Адамовічам над трылогіяй «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», «Час яе сыноў».

Вялікая рана, ад якой да апошняй хвіліны балела сэрца мастака, — гэта наша беларуская і сусветная бяда — Чарнобыль. І сведка гэтаму — фільм Віктара Турава «Чорны бусел».

Асаблівае месца ў жыцці Віктара Турава займае праца над эпічным па размаху, глыбока псіхалагічным творам І.Мележа. Ён па-мастацку ярка, пранікнёна і пераканаўча змог расказаць сродкамі кіно аб душэўнай высакароднасці, мудрасці і працавітасці, паэтычнасці і прыгажосці беларускага народа. Віктар Тураў разам з І. Мележам падаравалі гледачам дзве серыі «Людзі на балоце» і дзве серыі «Подыху навальніцы». А ўсяго восем серый «Палескай хронікі». Для каго-небудзь іншага — гэта праца на ўсё жыццё. Працы апантанай, ахвярнай і зноў жа высокамастацкага ўзроўню. Пра тое сведчаць прызы, атрыманыя за гэты фільм у Таліне, Карлавых Варах, Маніле.

Віктар Цімафеевіч вельмі клапаціўся аб развіцці беларускага нацыянальнага кінамастацтва, быў адданы яму да канца. Творча-вытворчае аб'яднанне «Юнацтва» — яго клопат і гонар, кінастудыя «Беларусьфільм» — адзінае месца работы майстра.

Талент і самаадданая праца Віктара Цімафеевіча Турава высока адзначана нашай дзяржавай. Ён быў адзначаны медалём Францыска Скарыны, шматлікімі ганаровымі званнямі.

Светлая памяць аб Віктару Цімафеевічу назаўсёды застанецца ў сэрцах яго сяброў, усіх аматараў кіно, прыхільнікаў таленту выдатнага кінарэжысёра.

**А.Р.Лукашэнка, С.Г.Шарэцкі, М.М.Чыгір, М.У.Мяснікові ч, У.В.Русакевіч, А.У.Сасноўскі, У.В.Ярмошын, Г.В.Буралкін, Я.П.Бяляк, У.В.Гасцюхін, І.Г.Дарашкевіч, Л.М.Давідовіч, Л.С.Екель, М.Г.Захарэвіч, В.В.Зуёнак, В.С.Іваноўскі, В.А.Казько, І.М.Калінка, А.І.Клімава, А.В.Красінскі, І.М.Лучанок, У.Г.Мулявін, М.М.Пташук, М.А.Савіцкі, М.Я.Фінберг, Ю.М.Цвяткоў, І.П.Шамякін, В.П.Шаранговіч, Ф.І.Шмакаў, Р.І.Янкоўскі, А.Р.Янчанка, М.М.Яроменка-старэйшы .**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**АМЕРЫКА ВЫБІРАЕ БУДУЧЫНЮ**

Сёння ў Злучаных Штатах Амерыкі знамянальны дзень — грамадзянам гэтай краіны трэба будзе выбраць на наступныя чатыры гады прэзідэнта, поўнасцю замяніць састаў палаты прадстаўнікоў і на адну трэць — сената кангрэса. Адначасова будзе вырашацца лёс губернатараў і членаў заканадаўчых сходаў штатаў.

**У ЮГАСЛАВІІ ПЕРАМАГЛІ САЦЫЯЛІСТЫ**

Кіруючая сацыялістычная партыя ў Югаславіі, якая зараз складаецца толькі з Сербіі і Чарнагорыі, прэтэндуе на перамогу ў выбарах у новы федэральны парламент. Прадстаўнік сацыялістаў заявіў пасля падліку двух з чвэрцю мільёнаў бюлетэняў, што яго партыя разам з саюзнікамі набрала больш за мільён галасоў. Чатырохпартыйная апазіцыя атрымала, паводле папярэдніх падлікаў, паўмільёна галасоў. Сацыялісты святкуюць перамогу, а апазіцыя залізвае раны і спадзяецца выправіць становішча пасля другога тура выбараў.

**БАЛГАРЫЯ: НАРОД ПАДТРЫМАЎ ДЭМАКРАТАЎ**

Кандыдат ад апазіцыі Пётр Стаянаў стане наступным прэзідэнтам Балгарыі. Гэтаму папярэднічала яго ўпэўненая перамога ў другім туры прэзідэнцкіх выбараў: ён набраў каля 60 працэнтаў галасоў, а яго сапернік Іван Маразаў, кандыдат ад сацыялістычнай партыі — каля 40 працэнтаў.

Згодна з балгарскай Канстытуцыяй, пасада прэзідэнта збольшага цырыманіяльная. Асноўная ўлада належыць парламенту, дзе сацыялісты займалі кіруючае становішча са снежня 1994 года.

***Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі».***

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У індыйскім раёне Міднапур у праваахоўных органаў, якія вядуць цяжкую барацьбу з незаконным самагонаварэннем, нечакана з'явіўся каштоўны памочнік — дзікі слон. Гігант, які спусціўся ў даліну ў пошуку вады, раптам чамусьці стаў ламаць склады самагоншчыкаў, што знаходзяцца ў акрузе. Мабыць, па паху ён беспамылкова вызначае месца захоўвання спіртнога.

Пасля таго як слон разнёс некалькі такіх падпольных складоў, напалоханыя самагоншчыкі гэтага раёна да лепшых часоў спынілі вытворчасць зелля, якое штогод у Індыі забірае некалькі тысяч чалавечых жыццяў.

**«Уік»**

## СЁННЯ

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Іакава, Ігнацыя, Елісея Лаўрышаўскага
К. Альжбеты, Славаміра

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра 3 лістапада.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дождж. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Магілёве — 11—13, Мінску, Гродне, Гомелі — 12—14, Брэсце — 13—15 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца дажджлівае надвор'е. Тэмпература ўначы — 2—7, 6-га па ўсходу — да 11, удзень — 6—11 градусаў вышэй нуля.

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# У МЕСЯЦЫ ВЕРАСНІ

♩=108

У ме- ся- цы ве- рас- ні вы- па- ла па- ро- ша.

Дзед ба- бу па- лю- біў, што ба- ба ха- ро- ша // -ро- ша.

Песня «У месяцы верасні» набыла асаблівую папулярнасць, калі яе ўключыў у свой рэпертуар вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры». Фальклорны твор, які шырока бытаваў на Гомельшчыне (запісаны ў 1968 годзе ад удзельнікаў мастацкай самадзейнасці мястэчка Лельчыцы), загучаў у сучаснай музычнай апрацоўцы ў радыё- і тэлепраграмах. З ім пазнаёміліся шматлікія замежныя гледачы, якія прыходзілі на канцэрты «Песняроў».

Песня «У месяцы верасні» пераклікаецца з іншай — «Пасылала баба дзеда» (яна змешчана ў нашай газеце 26 кастрычніка). Абедзве песні жартаўлівыя па зместу.

У народным гумары — глыбокі падтэкст. За жартам праглядваецца вытанчаная, вывераная шматгадовым вопытам мудрасць. Вясёлым тонам, без усякай навязлівай дыдактыкі, падаецца жыццёвы ўрок: неабмежаванасць і свавольства ў жаданнях заўсёды прыводзіць да пагібелі (іншых і сябе); ды і характар («і крычыць, і бурчыць, проці дзеда не змаўчыць»), які накладвае адбітак і на ўзаемаадносіны, і на дзейнасць, таксама вядзе да драматычнага фіналу.

У мастацкіх творах, асабліва гумарыстычных і сатырычных, для нагляднасці і пераканальнасці аповяду развіццё падзей адлюстроўваецца ў фізічным аспекце: гіне дзед у адной песні, гіне баба ў другой. А ў рэчаіснасці? У штодзённасці звычайна наступае духоўная або разумовая (рацыянальная) смерць. Ці ўсё разам адначасова. І прычына таму — дзейнасць псіхічна неўраўнаважаных, уладалюбівых «баб». Гэта яны, капрызныя і недаверлівыя, з неадольнымі жаданнямі і нервовымі амбіцыямі, падштурхоўваюць да пагібелі верных ім «дзядоў». Аднак рана ці позна наступае прасвятленне.

І як тут не прыгадаць радкі з вельмі папулярнай (на жаль, яшчэ не поўнасцю асэнсаванай) байкі, дзе тэма «дзед—баба» знайшла лагічнае прадаўжэнне, а галоўныя героі атрымалі належную сацыяльную ацэнку:

Ва ўстановах часам ёсць
Вось такія ж «бабы»:
Здэцца, й робяць яны штось,
Але справы — слабы.

Ды такая не ўцячэ!
Скажам ёй нарэшце:
— Мо без вас было б лягчэй?
Паспрабуйце злезці.

(Кандрат Крапіва. Дзед і баба. 1925 г.)

Дзед з песні «У месяцы верасні» ўжо зрабіў выбар: своечасова пазбавіўся ад дэспатычна-невыноснага саюзу. А мы?..

Мы будзем весяліцца, смяяцца, спяваць. Бо самая магутная сіла — вясёлая песня і радасны смех. Яны і абараняюць, і лечаць, і вучаць.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

### У МЕСЯЦЫ ВЕРАСНІ

Беларуская народная песня

*У месяцы верасні*
*Выпала пароша.*
*Дзед бабу палюбіў,*
*Што баба хароша.* } 2р.

*І крывая, і сляпая,*
*Яшчэ к таму злая:*
*І крычыць, і бурчыць,*
*Проці дзеда не змаўчыць.* } 2р.

*— Убірайся, бабка.*
*У новае белле, —*
*Я ж цябе павяду*
*З сабой на вяселле.* } 2р.

*Узяў жа дзед бабку*
*За белу ручку*
*І спіхнуў дзед бабку*
*З моста у рэчку.* } 2р.

*— Цяпер, бабка, кайся, —*
*Трошкі пакупайся, —*
*А як бабка узнырне,*
*То дзед кіем папіхне.* } 2р.

*Прыйшоў дзед дадому*
*І пачаў бажыцца:*
*— Ох, ох, далібог,*
*Не буду жаніцца.* } 2р.

*Раздумаўся дзедка,*
*У ладонькі плешча:*
*— Калі буду жыў-здароў,*
*Ажанюся ешча.* } 2р.

## УСХОДНІ ГАРАСКОП
### НА ГЭТЫ ТЫДЗЕНЬ

Дэлі, 30 кастрычніка.
(Кар. ІТАР-ТАСС Леанід Котаў.)

КАЗЯРОГ не выйдзе з паласы ўдач, асабліва ў бізнесе. Чуццё дапаможа вам апынуцца ў фінансавым выйгрышы і зэканоміць значную суму. Яна спатрэбіцца, калі давядзецца крыху пераплаціць за пакупку дома ці нерухомасці.

ВАДАЛЕЙ паспяхова ажыццявіць фінансавыя аперацыі, выкананню якіх зоркі дужа спрыяюць, як і падарожжам, заняткам навукамі і рамантычным прыгодам. Вы працягнеце вырашэнне важных дзелавых пытанняў і дасягнеце ў гэтым сваіх мэтаў. Магчымы таксама рызыковыя здзелкі, пры ажыццяўленні якіх, аднак, будзьце ўважлівымі.

РЫБЫ будуць заняты забеспячэннем свайго кар'ернага росту, вырашэннем розных пытанняў, звязаных з фінансавымі праграмамі і інвесціраваннем. Планеты раяць вам адкласці некаторую суму, якая спатрэбіцца неўзабаве для незапланаваных выплат. Самы час распачаць будаўніцтва ўласнага дома ці пашырэнне ранейшага жылля, дзе можна будзе адасобіцца і адпачыць.

АВЕНЫ будуць змагацца з жаданнем кінуць усе справы, якія перасталі ісці, як па масле. Давядзецца перамагчы сябе і сур'ёзна аднесціся да бізнесу. Перад укладаннем капіталу ў новы праект ўважліва вывучыце ўмовы здзелкі, інакш страціце грошы. Магчыма, што адносіны ў сям'і стануць нацягнутымі, але неўзабаве ў доме ўсталюецца мір і спакой.

ЦЯЛЬЦЫ будуць радавацца поспеху, які асабліва чакае дзяржслужачых. Адносіны з калегамі па рабоце стануць роўныя і дружалюбныя. На дзіва хутка будуць вырашацца дзелавыя пытанні. Некаму трэба будзе стрэсці пыл з падручнікаў і зноў пачаць грызці граніт навукі. А той, у каго гэта за плячамі, можа накіроўвацца ў падарожжа.

БЛІЗНЯТЫ сутыкнуцца з невялікімі цяжкасцямі на рабоце, якія можна будзе перадолець працавітасцю. Але з планамі аб круізе і адпачынку давядзецца пачакаць. Павышэнне па службе таксама не адбудзецца, а з атрыманнем грошай, на жаль, адбудзецца затрымка. Вам дапамогуць блізкія, дапамогай якіх не варта грэбаваць.

РАК не страціць аптымізму, і з верай у шчаслівую будучыню працягне дзелавую дзейнасць. Хоць у вас стабільнае фінансавае становішча, не перашкодзіць скарыстаць выпадак, каб умацаваць яго яшчэ больш. У час адпачынку вас чакаюць прыемныя сюрпрызы, ашаламляльныя сустрэчы і, магчыма, сустрэча з каханнем.

ІЛЬВЫ могуць прысвяціць сябе любімай справе, захапленням, заняткам спортам і рамантычным прыгодам. Не процiпаказаны таксама падарожжы, хоць забавы павінны быць у меру. Інакш страціце магчымасць для павелічэння сваіх даходаў і пашырэння бізнесу за межамі родных палесцін.

ДЗЕВАМ давядзецца ўпарта працаваць і адмовіцца ад планаў памяняць сферу прыкладання сваіх здольнасцей. Зоркі таксама не раяць пераязджаць у новы офіс, паколькі і ў старым да вас прыйдуць поспех і грошы. Дзелавыя паездкі будуць паспяховыя, а сітуацыя дома застанецца пад вашым неаслабным кантролем.

ШАЛІ будуць апантаны жаданнем добра падзарабіць. Для гэтага з'явяцца перспектывы, і вы даб'яцеся свайго. Рамантычныя прыгоды і выдатнае здароўе будуць падтрымліваць у вас цудоўны настрой. Вучнёўская моладзь з поспехам працягне адукацыю і скарыстае выпадак для вясёлага адпачынку.

СКАРПІЁН уступае ў паласу поспеху і ўдач. Фінансавыя мэты будуць дасягнуты, і ўдача перасягне ўсе вашы спадзяванні. Аднак будзьце гатовыя да павелічэння расходаў. Пры гэтым трэба будзе больш упарта працаваць і сканцэнтравацца на нейкай аднай справе. Больш увагі ўдзяляйце сваёй карэспандэнцыі і аплаце рахункаў.

СТРАЛЕЦ працягне паспяховы занятак бізнесам. Неўзабаве вам давядзецца паклапаціцца пра ўласную кар'еру і зрабіць захады для службовага росту. Давядзецца вырашаць таксама праблемы са сваякамі і клапаціцца пра ўласнасць. Зоркі раяць знайсці час і адпачыць дні два, інакш перапрацуецеся.

*36,6°*

# БОЙЦЕСЯ НЕШЧАСЛІВЫХ

*Імя італьянскага філосафа, тэолага, псіхолага Антоніо Менегецці ўжо добра знаёма спецыялістам.*

*Антоніо Менегецці — заснавальнік онтапсіхалогіі («онто» — па-грэчаску — «існае»), мэта якой раскрыць жыццёвы патэнцыял асобы, дапамагчы чалавеку рэалізаваць свае стваральныя сілы, зрабіць яго адказным за свой лёс.*

Уявім, што за абедам вы седзіце з чалавекам, які вам вельмі антыпатычны. Нават калі перад вамі ваша любімая страва, прысутнасць гэтага чалавека начыста адаб'е апетыт. А ў кампаніі з некім, хто вам прыемны, проста кавалак хлеба і глыток вады прынясе асалоду. Некаторыя расліны вянуць у прысутнасці пэўных людзей, хоць і атрымліваюць дастаткова вільгаці, а трапляючы да іншых людзей, ажываюць, актыўна растуць. Тое ж самае можна сказаць і пра рэакцыю жывёл на таго ці іншага суб'екта. Я не хачу гэтым сказаць, што чалавек, які жыве ў згодзе з дрэвам ці сабакам, вызначаецца поўнай дасканаласцю, я толькі сцвярджаю, што ёсць людзі, якія дабратворна ўплываюць на расліны і жывёл.

У маёй клінічнай практыцы нярэдкія былі выпадкі, што хворы хутка папраўляўся, калі яго ўдавалася ізаляваць ад пэўнага асяроддзя ці пэўнага чалавека. Адмоўнае ўздзеянне аднаго чалавека на другога можа быць такое ж згубнае, як і пералітая яму кроў не той групы. Такая рэальнасць уздзеяння негатыўнай псіхалогіі. Негатыўную псіхалогію ўкараняе ў нас асоба фрустраваная, якая пакутуе ад несвядомай нездаволенасці.

Наш арганізм — гэта жывое люстэрка, якое адбівае і рэгіструе ўсе эмацыянальныя змяненні ў другім арганізме, з якім уступае ў кантакт. Здараецца, што ўначы вы не можаце заснуць ці вас праследуюць надакучлівыя ўяўленні, адзін і той жа сон паўтараецца ўсю ноч. Напэўна, на працягу дня вы сталі аб'ектам нейкага ўплыву ці вельмі ўніклі ў праблемы чалавека, які выклікае ў вас стрэс, патрабуючы да сябе пастаяннай увагі, што і аказала ўплыў на фізіялагічным узроўні. Чалавечае цела — гэта радар, прычым кожная яго частка прымае з навакольнага асяроддзя інфармацыю пэўнага характару. І кожны з нас здольны як перадаваць з дапамогай свайго арганізма пэўную інфармацыю псіхалагічнага характару, так і ўспрымаць пастаянны паток інфармацыі ад іншых.

Вельмі часта негатыўную інфармацыю ўкараняюць у нас людзі з блізкага акружэння. Скажам, глыбокая нянавісць з боку свякрухі ці саперніцы, што знаходзіцца паблізу, заўсёды дружалюбнай і паслужлівай, можа стаць прычынай негатыўнага ўварвання і выклікаць хваробу. Наша несвядомае выпраменьвае моцныя энергетычныя зарады, якія перадаюцца ад арганізма да арганізма, аказваючы няспыннае ўздзеянне. Адна пацыентка расказала мне, што як толькі яна трапляла на перапоўненую платформу, у яе ўзнікала адчуванне, быццам нехта зараз саштурхне яе на рэйкі пад электрычку. З аднаго боку, падобныя негатыўныя фантазіі могуць быць вынікам нездаровага душэўнага самаадчування чалавека, які зрабіў нейкую памылку супраць сябе, сваёй асобы. Але можа быць і іншая прычына. Жанчына, пра якую я ўпамянуў, была маладая, прывабная, жыццярадасная, модна і добра апранутая. Яна давала прычыну любой нешчаслівай, хворай, беднай старой выклікаць да сябе агрэсію і нянавісць. У гэтым выпадку яе жудасныя фантазіі былі водгукам на негатыўную інфармацыю некага з тых, хто яе акружаў. Бо ў няшчасных не застаецца ўнутры месца для дабрыні і здаровага самаадчування. А добрыя думкі ўзнікаюць толькі ў тых, хто добра сябе адчувае.

Вельмі небяспечны тып негатыўнай асобы ўяўляюць сабой тыя фрустраваныя людзі, якія будуюць жыццё на прынцыпах пакорлівасці, самаахвярнасці, няздольныя атрымліваць асалоду непасрэдна ад факта існавання, чые натуральныя жыццёвыя інстынкты знаходзяцца ў вобласці скрытай і злоснай агрэсіўнасці. Яны фактычна пажыраюць тых, да каго ставяцца з быццам бы мацярынскім клопатам і адданасцю. Самаадрачэнне, якое выключае радасць жыцця, часта становіцца разбуральным для таго, на каго яно накіравана. Бо носьбіты яе, самі не валодаючы жыццём, існуюць за кошт тых, да каго чапляюцца як плюшч. Ім патрэбны поўныя жыцця людзі, пазітыўныя антыподы, каб трансфармаваць усё лепшае, што ёсць у гэтых людзей, ва ўласны негатывізм.

Як можна выявіць носьбітаў негатыўнай псіхалогіі? На рацыянальным узроўні зрабіць гэта нялёгка. Аднак можна ўжо сёе-тое западозрыць, калі вы ўбачылі ў некім прыметы надакучлівай паслужлівасці, залежнасці, інфантыльнасці, залішняй гаварлівасці. Рухі такіх суб'ектаў несінхронныя, знешне яны часта выглядаюць неакуратна. Гэтыя людзі звычайна ўпартыя і нязменныя ў сваіх меркаваннях, любяць скардзіцца на неразуменне з боку іншых, але ў сапраўднасці самі нікога не любяць, зайздросныя і пастаянна дэманструюць рэўнаснае саперніцтва з прэтэнзіяй на захоп. У іх адчуваецца ўнутраная жорсткасць, яны не выпраменьваюць канкрэтных эратычных флюідаў, за іх усмешкай тоіцца моцны зарад каварства. Яны не выносяць доўгай адзіноты, цішыні і правакуюць сітуацыю канфрантацыі, каб прымусіць сваю ахвяру зрабіць памылку. Могуць, калі не даб'юцца свайго, звярнуцца да шантажу, пагроз скончыць жыццё самагубствам. Але найбольш відавочным у носьбітах негатыўнай псіхалогіі мне ўяўляецца іх здольнасць распаўсюджваць вакол сябе холад і адсутнасць у вачах і наогул ва ўсёй асобе святла. Выпраменьванне, што зыходзіць ад іх, параджае адчуванне свінцовага цяжару, ціску ў вобласці якога-небудзь жыццёва важнага органа ў чалавека, якому адрасаваны такога роду пасланні.

Калі вы западозрылі, што сталі аб'ектам падобнага негатыўнага ўздзеяння, дык перш за ўсё павінны абудзіць у сабе волю, крытычныя адносіны і аўтаномнасць незалежнай уласнай свядомасці. Цяжкасць заключаецца ў тым, што ахвяра заўсёды адкрытая, прастадушная, даверлівая. Вельмі часта яна любіць і абараняе негатыўную асобу, якая чэрпае яе энергію. А ўзяць энергію можна пры ўмове, калі ахвяра адкрые сябе знутры. Любы з нас здольны, нічога не баючыся, знаходзіцца побач з негатыўнай асобай, калі мы не пойдзем насустрач, не даверымся ёй. Значыцца, трэба «закрыцца» і праявіць унутраную індыферэнтнасць да прыхільнасці з боку псіхалагічнага вампіра. Калі вы яшчэ няздольныя да самастойнасці і незалежнасці, дык ідзіце на поўны разрыў, спыніце любыя кантакты, сустрэчы, перапіску, тэлефонныя размовы, абмен інфармацыяй.

Неабходна процістаяць носьбіту негатыўнай псіхалогіі, нават звярнуўшыся да імгненнай нянавісці, выражанай у выглядзе маўчання ці ў форме адкрытага непрымання. Але найлепшая мера перасцярогі ў тым, каб унутрана сканцэнтравацца, быць адказным, думаць пра сябе, не распыляцца. Трэба заўсёды мець дакладнае ўяўленне дзе, калі і каму можна дэманстраваць свой поспех, сваю прыгажосць ці здароўе. Здаровы эгаізм мае на мэце быць самім сабой у імя самога сябе, не азірацца на забароны і ўнутраныя ўстаноўкі.

Хацеў бы яшчэ адзначыць, што ёсць не толькі людзі, але і месцы з негатыўнай псіхалогіяй. Так, прастора, куды не трапляюць сонечныя прамяні, не можа быць пазітыўнай.

Таму ў любым новым месцы пастарайцеся адчуць, ці падабаецца яно вам. І зрабіце так, каб яно стала максімальна вашым. Эгаістычна абжывайце яго, не бойцеся разбурыць памяць аб тых, хто жыў там раней. Калі ж ёсць не проста сумненні, але яўна адмоўнае, цяжкае адчуванне — пакіньце гэтае месца. Такое правіла гігіены жыцця.

Калі вы адчуваеце сумненні ў правільнасці свайго падазрэння, не ведаеце, дрэнна ці добра зрабілі — «выключыце» галаву і выкарыстайце свой другі мозг — тую зону ў арганізме, якая размяшчаецца ад горла да палавых органаў. Менавіта гэтая нейрагастрасістэма, якая функцыянуе ў чалавеку, рэагуе на ўсё, што з ім адбываецца, раней, чым яго свядомасць. Гэтая рэакцыя «на ўзроўні жывата», у зоне страўніка — самая хуткая і дакладная. Найменшая небяспека, нават нечаканы пляскач — і першым імгненна рэагуе ваш страўнік, ці то спазмам, ці то задышкай, хоць вы яшчэ не паспелі зразумець, што здарылася. Дык вось, вы даверцеся гэтай вобласці свайго арганізма. «Кіньце» думку ці фантазію, што б'ецца ў вас у галаве, у вобласць жывата на 1-2 секунды і адчуйце рэакцыю. Калі вы адчуеце ўнутры цяпло, агонь, пашырэнне, дрыжанне, лёгкасць — усё што адбываецца з вамі, пазітыўнае, сапраўднае, вы маеце рацыю. Калі ж у вобласці жывата вы адчуеце млоснасць, нешта агіднае, непрыемнае — гэта сігнал вашых негатыўных думак, пачуццяў, учынкаў.

Я ўпэўнены, што ў жыцці выпадковасцей не бывае. Сам чалавек фарміруе ўнутры сябе ўдачлівасць ці няшчасце. Толькі ён сам з'яўляецца канструктарам свайго поспеху ці няўдач, свайго лёсу, які потым усё вызначае. Бо нават карту пры варажбе рука несвядома выбірае тую, якая падказвае, што ты нясеш унутры і што цябе чакае. І ўсё, што з намі адбываецца, спачатку тоіцца ў нашай псіхічнай рэальнасці, унутры нас, а потым развіваецца і рэалізуецца вонкі. Наша псіхічная рэальнасць больш дакладная чым любая матэматыка. Ты думаеш такім чынам, у цябе такія эмоцыі, у тваёй псіхічнай рэальнасці закладзены такія стэрэатыпы — усё гэта і прыводзіць цябе да пэўнага жыццёвага выніку. Калі ты робіш памылку супраць сябе, супраць жыцця на 10 балаў, дык жыццё адкажа табе на 100 балаў. Калі ж на 10 балаў добрае, карыснае для жыцця, для свайго росту, дык табе адплаціцца сто разоў. Імкніся не памыляцца і не рабіць на шкоду ўласным аб'ектыўным інтарэсам. Любая маральная памылка (г. зн. тое, што супярэчыць тваёй чалавечай сутнасці) змяншае жыццёвы пачатак і інтэлект, змяншае патэнцыял асобы.

У любой абстаноўцы трэба быць смелым у адносінах да ўласнага жыцця і не баяцца выконваць галоўную задачу — быць самім сабой. Той, хто здрадзіць сваёй прыродзе, страціць усё.

**«Крестьянка».**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 94665. Індэкс 63850.**
**Зак. № 7038.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**